4 красавіка 2020 | № 13 (672)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

Царква і каранцін

Стар. 9

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

ISSN 2218-2144







•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА
•ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ











# Эпідэміі не будзе. Будзе парад



Дзіяна СЕРАДЗЮК

**У той час, калі амаль увесь свет сядзіць на каранціне, у Беларусі рыхтуюцца да параду.**

Нават у Віцебску, які ў беларускай інтэрнэт-прасторы ўжо называюць беларускім Уханем. Спачатку ў тэлеграм-каналах з'явілася інфармацыя, што сілавікам забаранілі пакідаць свае вобласці, і крый Божа прыязджаць на Віцебшчыну. Потым стала вядома, што Віцебскі гарвыканкам зацвердзіў надзвычайны план дадатковых захадаў для прафілактыкі і зніжэння распаўсюду каронавіруса з 21 пункта. Затым ананімная доктарка з Віцебска распавяла пра незвычайнае павелічэнне колькасці пнеўманій і загружанасць шпіталяў у горадзе. Папаўзлі чуткі пра тое, што вобласць закрываюць. Зрэшты, на момант напісання гэтага матэрыялу яны не пацвердзіліся. Але менавіта ў Віцебску здарылася першая (прынамсі, вядомая) смерць ад каронавіруса: памёр акцёр Коласаўскага тэатра Віктар Дашкевіч.

Пры гэтым адзіная мера бяспекі, якую ўводзяць на Віцебшчыне пры падрыхтоўцы да святкавання Дня Перамогі, — гэта абмежаванне знаходжання ветэранаў у людных месцах. Плануецца, што юбілейныя медалі ветэранам будуць уручаць не ва ўрачыстай абстаноўцы, а ў іх дома.

Тым часам інтэрнэт-петыцыю за адмену парада ў Мінску і яго рэпетыцый у сувязі з распаўсюджваннем інфекцыі падпісалі больш за сем тысяч чалавек. Яе аўтары патрабуюць забараніць добраахвотна-прымусовы ўдзел работнікаў дзяржаўных арганізацый у ваенным парадзе з мэтай стварэння масоўкі; адмяніць правядзенне рэпетыцый ганаровай варты на тэрыторыі Мінска; забараніць правядзенне парада ваеннай тэхнікі, каб пазбегнуць кіравання ёю заражаных асоб і прадухілення надзвычайных сітуацый.

Адзначаецца, што на зэканомленыя сродкі варта было б арганізаваць абыход сталых людзей з прадастаўленнем ім медыкаментаў і іншых прадметаў першай неабходнасці; закупку медыцынскіх матэрыялаў для дааснашчэння ўсіх медыцынскіх устаноў сродкамі неадкладнай дапамогі; накіраваць сродкі на азеляненне Мінска для нармалізацыі экалагічнай абстаноўкі; адрамантаваць дарожнае палатно замест яго бягучага рамонту пасля праходжання ваеннай тэхнікі.

Але на тое, што ўлады пачуюць голас народа, спадзеву няма. Гэта ўжо не першая ў Беларусі петыцыя з патрабаваннем адмяніць парады, такія звароты з'яўляюцца штогод. Аднак кіраўніцтва дзяржавы не спыніла нават смерць жанчыны ад салюту падчас леташняга параду 3 ліпеня. Тыдзень таму падчас размовы з працоўным калектывам ААТ «Белгіпс» Лукашэнка заявіў, што ў Беларусі пройдуць усе запланаваныя да Дня Перамогі мерапрыемствы.

«Мы павінны на высокім узроўні правесці гэтае мерапрыемства, каб і дзеці нашы, і ўвесь свет бачылі, што мы памятаем. Таму што Беларусь — гэта жывы помнік той страшнай вайны. Больш, чым беларусы, ні адна краіна не пацярпела», — заявіў афіцыйны кіраўнік.



Калаж НЧ

Што ж, беларусам не прывыкаць. Спачатку наша краіна стала жывым помнікам вайны, потым — жывым помнікам Чарнобыля. Неўзабаве можа стаць помнікам каронавіруса. Праўда, наколькі жывым — пытанне.

І ў гэтым — чарговае пацвярджэнне найвышэйшага цынізму і поўнага наплявальніцтва на людзей. Бо нават калі дзяржава не можа/не хоча ратаваць сваіх грамадзян, яна павінна хаця б не перашкаджаць ім ратавацца самім. А для гэтага ўсяго толькі і трэба — даваць максімальна поўную інфармацыю пра тое, што адбываецца. Калі людзі будуць ведаць, колькі ў краіне хворых на каронавірус, колькі зарэгістравана смерцяў і як развіваецца сітуацыя, яны здолеюць паклапаціцца пра сябе і сваіх блізкіх.

А Міністэрства аховы здароўя замест таго, каб проста даваць дакладныя лічбы, падкідвае журналістам галаваломкі — лічыце самі. Вось толькі ў гэтай засакрэчанасці з падвоенай хуткасцю множацца фэйкі і ўзрастае паніка ў грамадстве. А між іншым артыкул 34 Канстытуцыі гарантуе грамадзянам правы на атрыманне, захоўванне і распаўсюджванне поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі аб дзейнасці дзяржаўных органаў, палітычным, эканамічным жыцці, стане навакольнага асяроддзя, а забеспячэнне правоў і свабодаў грамадзян з'яўляецца вышэйшай мэтай дзяржавы. Зрэшты, ужо не першы раз кіраўніцтва краіны патапталася па Канстытуцыі, і не толькі па ёй.

> **Менавіта ў Віцебску здарылася першая смерць ад каронавіруса**

Варта адзначыць, што калі дзяржава не клапоціцца пра сваіх грамадзян, пра іх клапоцяцца іншыя. Так, урад і Нацбанк разлічваюць на «хуткі» крэдыт ад Міжнароднага валютнага фонду ў памеры каля 900 мільёнаў долараў у сувязі з выклікамі, якія стаяць перад краінай з-за пагаршэння глабальнай эканамічнай сітуацыі і пандэміі каронавіруса. Урад ЗША ўжо паабяцаў выдзеліць нашай краіне 1,3 мільёна долараў на надзвычайную медыцынскую і гуманітарную дапамогу для барацьбы з пандэміяй. Ды яшчэ і Еўракамісія вырашыла падкінуць краінам Усходняга партнёрства (сярод якіх — і Беларусь) 140 мільёнаў еўра на барацьбу з каронавірусам.

Дык чаму ж не пець, чаму не гудзець? Чаму не ладзіць парады?

# Інвалід не здолела аднавіцца на працы праз суд

Зінаіда ЦІМОШАК

**Валянціна Аній, інвалід 3-й групы, была звольненая па скарачэнні штатаў. Жанчына лічыць сваё звальненне несправядлівым, бо інваліды маюць прыярытэтнае права застацца на працы, і называе яго актам помсты за адстойванне ў мінулым годзе свайго права на мінімальны заробак.**

Валянціна Аній працавала ў вытворчым будаўнічым каапературыве «Маналіт» у Слуцку з лета 2012 года, і была звольненая па скарачэнні штатаў (пункт 1 артыкула 45 Працоўнага кодэкса).

— На працягу многіх гадоў працы я добрасумленна выконвала свае працоўныя абавязкі, не атрымлівала аніякіх спагнанняў, — гаворыць Валянціна. — Лічу, што дырэктар прадпрыемства такім чынам адпомсціў мне за маю нязгоду мірыцца з парушэннямі заканадаўства пры заключэнніаднагадовага кантракту ў мінулым годзе.

Валянціна Аній распавяла, што ў 2019 годзе ёй недаплачвалі мінімальны заробак, а пасля прапанавалі падпісаць фактычна пусты кантракт тэрмінам на адзін год. Па яе словах, там была толькі адзначаная велічыня штодзённага заробку за змену — 17 рублёў. Не былі прадугледжаны ні аплата выходных, ні святочных дзён, ні іншыя выплаты згодна заканадаўству. Паколькі жанчына той кантракт не падпісала, адміністрацыя звольніла яе ў сувязі з тым, што работніца «не пагадзілася на змяненне ўмоваў працы».

Дзякуючы дапамозе прадстаўніка незалежнага прафсаюза РЭП Валянціна Аній была адноўленая праз суд на працы з заключэннем бестэрміновай дамовы. І вось — новае звальненне ў лютым 2020 года і новы суд.

— Лічу, што новае звальненне па скарачэнні штатаў — гэта помста за маё адстойванне працоўных правоў у мінулым годзе, — заявіла Валянціна Аній падчас судовага разбіральніцтва. — Пасля аднаўлення на працы з дапамогай незалежнага прафсаюза ў 2019 годзе дырэктар неаднаразова вусна пагражаў, што знойдзе прычыну для майго звальнення. І вось знайшоў. Каб зрабіць выгляд, што гэта не асабістая помста, разам са мной звольнілі яшчэ некалькі работнікаў.

Прадстаўнікі прадпрыемства «Маналіт» патлумачылі звальненне былой работніцы фінансавымі цяжкасцямі. Таксама яны паведамілі, што не ведалі, што Аній да гэтага часу з'яўляецца сябрам прафсаюза РЭП.

На прадпрыемстве «Маналіт» апошні год жанчына працавала вахцёрам. Цяжкая праца ёй супрацьпаказаная па здароўі.

— Магу працаваць толькі вартаўніком альбо вахцёрам па стану здароўя, і мне яшчэ тры гады да пенсіі па ўзросце, — патлумачыла сваё памкненне застацца на былой працы жанчына. — У Слуцку цяжка знайсці такую працу, да таго ж ніхто не хоча звязвацца з інвалідамі. Атрымліваю пенсію па інваліднасці памерам у 215 рублёў, выжыць за такія грошы немагчыма.

Паколькі жанчына з'яўляецца сябрам незалежнага прафсаюза і фармальна была звольненая гэтым разам зноў з парушэннем працоўнага заканадаўства — без папярэдняга паведамлення аб звальненні на адрас адпаведнага прафсаюза, яна прасіла суд Слуцкага раёна аднавіць яе на працы ў папярэднім статусе, абавязаць працоўную арганізацыю выплаціць ёй сярэдні заробак за час прымусовага прагулу і кампенсацыю маральнай шкоды. Прадстаўнікі прафсаюза РЭП папярэдне дапамаглі скласці позву ў суд, але на судзе адстойваць інтарэсы жанчыне давялося ў адзіночку.

Суд Слуцкага раёна адмовіў інваліду Валянціне Аній у задавальненні яе позвы, паколькі не знайшоў у дзеяннях наймальніка парушэння працоўнага заканадаўства. Жанчына яшчэ не вырашыла, ці будзе абскарджваць у вышэйшай судовай інстанцыі такое рашэнне суда.

# Нашчадак рэпрэсаваных прайграў суд з Нацархівам

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**НАРБ на законнай падставе не прадастаўляе звесткі аб ахвярах рэпрэсій. Такое рашэнне прыняла 30 сакавіка суддзя Першамайскага раёна Мінска Вікторыя Макуха па выніках разгляду скаргі нашчадка рэпрэсаваных Ігара Станкевіча на дзеянні (бяздзейнасць) Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь.**

Ігар Станкевіч лічыць, што Нацархіў незаконна закрыў доступ да базы даных «Звесткі аб неабгрунтавана рэпрэсаваных грамадзянах Беларусі».

База была створаная ў 1990-х гадах на аснове картак індывідуальнага ўліку неабгрунтавана рэпрэсаваных, распрацаваных аддзелам па справах рэпрэсаваных пры Галоўным архіўным упраўленні. У 1996 годзе аддзел быў ліквідаваны, а карткі перададзеныя ў Нацыянальны архіў.

Картатэка змяшчае больш за 180 тысяч запісаў аб рэпрэсаваных і рэабілітаваных жыхарах БССР. Гэтыя звесткі ў Нацархіў перадаваліся з архіваў КДБ і МУС, з дзяржаўных архіваў Магілёўскай, Гомельскай і Гродзенскай абласцей. На сёння гэтая база — адзіны афіцыйны і найбольш поўны рэестр рэпрэсаваных у Беларусі. У адкрытых базах, напрыклад, «Картатэцы Сталіна» (база расійскай грамадскай арганізацыі «Мемарыял»), утрымліваюцца звесткі ўсяго на 60–80 тысяч жыхароў Беларусі. Яшчэ ў 2014 годзе Ігар Станкевіч беспершкодна атрымаў інфармацыю пра сваіх рэпрэсаваных продкаў — прадзеда і прабабулю. Аднак пачынаючы з 2018 года НАРБ не выдае яму такія звесткі на іншых рэпрэсаваных сваякоў, а пераадрасоўвае ў архіў КДБ, дзе захоўваюцца самі справы рэпрэсаваных. Больш за тое, у снежні Ігар Станкевіч атрымаў адказ з НАРБ, у якім гаворыцца, што звестак пра яго прадзеда ў базе не маецца, хаця раней ён іх атрымліваў.

Як патлумачыла ў судзе намесніца дырэктара Нацархіва Алена Кушнова, адказ пра адсутнасць у базе звестак — памылка. У архіўных фондах сапраўды няма звестак па продка Станкевіча з указанай заяўнікам датай нараджэння. Але ёсць звесткі на яго, толькі з датай нараджэння на год ранейшай. Таксама яна распавяла, чаму раней у архіве можна было атрымаць поўную інфармацыю аб рэпрэсаваных, а цяпер — толькі аб месцы захавання дакументаў.

— У 1990 годзе архіўным установам была пастаўлена задача скласці спісы ахвяр неабгрунтаваных палітычных рэпрэсій і «Беларускай энцыклапедыі» — стварыць спецыяльныя выданні, кнігі «Памяць», каб увекавечыць памяць гэтых людзей. Каб скласці спісы, была распрацаваная ўліковая картка. Але картатэка была створаная на дакументах з розных архіваў, і яна не з'яўляецца падставай для выдачы архіўнай даведкі, якая пацвярджае канкрэтныя звесткі. Асноўная задача архіваў — выдаваць звесткі аб тым, куды можна звярнуцца па месцы захоўвання матэрыялаў архіўных справаў. Бо мы сутыкаемся з такім чыннікам: у рэгістрацыйнай картцы адны звесткі, а ў матэрыялах справы на гэтага ж чалавека — зусім іншыя.

Па словах Алены Кушновай, карткі — гэта толькі элемент навукова-даведачнага апарата, які дапамагае арыентавацца ў вялікім аб'ёме архіўных матэрыялаў. Але справы рэпрэсаваных захоўваюцца не ў НАРБ, а ў архівах КДБ і МУС, таму супрацоўнікі Нацархіва рэкамендуюць звяртацца туды.

— На першым этапе мы выдавалі звесткі, але атрымалі бумерангам іншае: многія сталі прасіць выставіць гэтую базу ў адкрыты доступ. Але як мы можам выставіць неправераны прадукт, калі ў архіўных дакументах вельмі шмат спрэчных пытанняў і розначытанняў?

Ігар Станкевіч перакананы, што картка з'яўляецца архіўным дакументам, і архіў павінен прадаставіць яе па запыце. Аднак прадстаўнікі архіва пярэчаць: уліковая картка ў складзе базы даных не можа быць архіўным дакументам, бо не ўтрымлівае спасылак на іншыя дакументы (фонд, вопіс, справа), якія захоўваюцца ў НАРБ. Станкевіч бачыць у гэтым супярэчанне закону «Аб архіўнай справе і справаводстве» — там нічога не сказана пра спасылкі на іншыя дакументы.

У судзе высветлілася і тое, што Нацархіў не з'яўляецца ўласнікам базы.

— База была прадастаўленая нам у эксплуатацыю, а звесткі, якія там утрымліваюцца, не нашы, а перададзеныя нам з іншых архіваў. Таму нельга сцвярджаць, што мы з'яўляемся яе ўласнікамі, — заявіла Кушнова.

Таксама яна распавяла, што цяпер база ніякім чынам не абнаўляецца і знаходзіцца ў статычным стане, бо адпаведных архіўных дакументаў у НАРБ няма. Разглядаецца пытанне, каб вярнуць базу яе ўласнікам.

Калі Ігар Станкевіч спрабаваў высветліць прычыны абмежавання доступу да базы даных аб неабгрунтавана рэпрэсаваных у Міністэрстве юстыцыі, яму адказалі, што база не мае ніякіх абмежаванняў па доступе. Аднак у судзе высветлілася, што супрацоўнікі Нацархіва карыстаюцца ўнутраным дакументам, зацверджаным у 2018 годзе, з якога вынікае, што база выкарыстоўваецца толькі ў службовых мэтах.

Таксама заяўнік звярнуў увагу, што пры запыце звестак аб рэпрэсаваных праз электронную форму на сайце НАРБ з 2018 года з'явілася патрабаванне дакументальна пацвердзіць сваяцтва з чалавекам, звесткі аб якім запытваюцца. Але, паколькі архіў больш не выдае ніякіх асабістых звестак, навошта пацвярджаць сваяцтва? Алена Кушнова паабяцала, што з сайта гэтае патрабаванне прыбяруць.

Бадай, гэта адзіная саступка, якой дамогся ў судзе нашчадак рэпрэсаваных. Суддзя Вікторыя Макуха пакінула яго скаргу без задавальнення. Станкевіч мае намер абскардзіць рашэнне суддзі ў Мінгарсудзе.

Цяпер у рамках грамадскай кампаніі «Забітыя, але не забытыя» яшчэ некалькі нашчадкаў рэпрэсаваных накіравалі скаргі ў Міністэрства юстыцыі на незаконныя адмовы НАРБ у прадастаўленні звестак на іх сваякоў. Сярод іх — Гары Паганяйла, праваабаронца Беларускага Хельсінкскага Камітэта. Яго маці была рэпрэсаваная і правяла ў лагерах 16 гадоў, а сам Гары Пятровіч нарадзіўся і да 3-х гадоў выхоўваўся ў ГУЛАГу.

Падобную скаргу ў Дэпартамент па архівах і справаводстве Мінюста накіраваў і грамадскі актывіст Яўген Батура, яго прадзеда расстралялі ў 1938 годзе ў Мінску.

# На Лідчыне аднавілі расследаванне забруджвання Дзітвы і Нёмана

**Крымінальная справа па факце забруджвання ракі Дзітва адноўленая, паведаміў пракурор Лідскага раёна ў адказ на заяву гродзенскага абласнога каардынатара Руху «За Свабоду» Вітольда Ашурка.**

Ашурак звярнуўся ў пракуратуру з патрабаваннем знайсці вінаватых у забруджванні ракі Дзітвы і Нёмана. Па гэтым факце была распачата крымінальная справа, але неўзабаве яна была спыненая.

«У адпаведнасці з патрабаваннямі арт. 138 Крымінальна-працэсуальнага кодэкса дзеянні і рашэнні органа, які вядзе крымінальны працэс, могуць быць абскарджаныя ва ўстаноўленым парадку ўдзельнікамі крымінальнага працэсу, а таксама іншымі фізічнымі асобамі, калі праведзеныя працэсуальныя дзеянні і рашэнні закранаюць іх інтарэсы», — нагадаў пракурор.

І тут жа заявіў, што Ашурак па гэтай справе не з'яўляецца асобай, якая «мае права абскардзіць дзеянні і рашэнні Следчага камітэта.

«Дадаткова паведамляю, што 19 сакавіка намеснікам начальніка КПК УСК па Гродзенскай вобласці пастанова аб прыпыненні папярэдняга расследавання па крымінальнай справе па факту забруджвання ракі Дзітва адмененая, вытворчасць па крымінальнай справе адноўленая», — дадаў чыноўнік.

«У выпадку з забруджваннем Дзітвы і Нёмана летам 2019 адбылося без перабольшання злачынства, і яно патрабуе адпаведнага пакарання. Але тут узнікае канфлікт інтарэсаў: пакараць кагосьці трэба, але "сваіх" караць шкада! І цалкам магчыма, што "шкадаванне" і ўзяло б верх, але... не ў 2020 годзе. Не ў год прэзідэнцкіх выбараў», — пракаментаваў адказ пракуратуры Ашурак.

Па ягоных словах, ён з камандай маніторыць настроі грамадскасці Лідчыны і дакладна ведае, што «людзі прагнуць справядлівага пакарання злачынцаў, вінаватых у зліве нечыстот з падведамнай тэрыторыі Лідскай ЖКГ».

«Таму намі і быў накіраваны зварот у Лідскую пракуратуру. Адказ Пракуратуры нас задаволіў — крымінальная справа адноўленая. Будзем трымаць гэтую тэму на кантролі», — падкрэсліў гродзенскі абласны каардынатар Руху «За Свабоду».

**Паводле Вольгі Быкоўскай, рух.by**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# У чаканні складаных часоў

Сяргей САЛАЎЁЎ

**«Што рускаму добра, тое немцу — смерць», — гэтая прымаўка працуе ў абодва бакі. Падаецца, Расію бліжэйшым часам чакаюць жорсткія выпрабаванні. А разам з ёй і Беларусь — таму што не трэба было ўлазіць у Саюзную дзяржаву і зацыклівацца на нафтаперапрацоўцы.**

На тыдні кошт расійскай нафты Urals у Паўночна-Заходняй Еўропе ўпаў да 13 долараў за барэль. Гэта мінімальны ўзровень з сакавіка 1999 года, паведамляе агенцтва «Аргус». Падавалася б, нам ад гэтага даволі добра — мы можам цяпер ціснуць на ўсходніх «партнёраў», якія ўсё яшчэ трымаюцца за звышпрыбыткі і патрабуюць нейкіх прэміяў за пастаўкі нафты ў Беларусь.

Нагадаем, што ўсе нафтавыя праблемы нашага «стратэгічнага саюзніка» з'явіліся з-за яго скнапасці. Расія ў даволі рэзкай форме адмовілася скарачаць здабычу сваёй нафты дзеля падтрымання сусветных цэнаў на яе. У выніку пагадненне АПЕК+ спыніла сваю дзейнасць з 1 красавіка 2020 года. Яшчэ раней Саудаўская Аравія і іншыя нафтавыя гульцы рэзка абвалілі кошт нафты на сусветных рынках.

Аднак нам не трэба ў сувязі з гэтым вельмі моцна радавацца. Справа ў тым, што бюджэт Расіі разлічаны на цану 42,4 долара за барэль расійскага гатунку Urals. Адпаведна, ВУП Расіі ў гэтым годзе будзе «ніжэй за плінтус». Ёй давядзецца вельмі істотна падтрымліваць сваю эканоміку, і ў далейшым можна чакаць абвалу расійскага рубля.

Прычым, кампенсаваць такое падзенне цэнаў на нафту за кошт нейкіх іншых рэсурсаў у «сусветнай бензакалонцы» не атрымліваецца. Разам з нафтай абваліліся і цэны на газ. З-за цёплай зімы і паставак звадкаванага прыроднага газу ў еўрапейскіх падземных сховішчах засталіся рэкордныя рэшткі газу. Гэта апусціла спотавыя цэны на газ у Еўропе да ўзроўню аж унутрырасійскіх!

У аўторак, 31 сакавіка, кошт паліва на галандскай TTF і брытанскім газавым хабе National Balancing Point усталяваўся на ўзроўні 82 долары за тысячу кубаметраў. У заходніх расійскіх рэгіёнах — Ленінградскай і Смаленскай абласцях — газ каштуе 59 долараў за тысячу кубоў. Калі дадаць да яго велічыню экспартнай мытнай пошліны ў 30%, атрымліваецца 84–85 долараў, што перавышае цану на еўрапейскіх пляцоўках.

Беларусь пакуль купляе расійскі газ па цане 127 долараў за тысячу кубаметраў, а гэта прыкладна ў паўтара разы даражэй бягучых еўрапейскіх рынкавых коштаў. Зразумела, мы лічым такі кошт завышаным, і знайшлі ў гэтым саюзнікаў. У аўторак Лукашэнка паразмаўляў з прэм'ерам Арменіі Ніколам Пашынянам. Згодна з паведамленнямі прэс-службы беларускага кіраўніка, «Лукашэнка і Пашынян у тэлефоннай размове сышліся ў меркаванні, што цэны на расійскі газ з'яўляюцца завышанымі». Мажліва, у бліжэйшы час нас чакае чарговая «газавая вайна», якая будзе ініцыяваная беларускім бокам.

Між тым, Расія — галоўны знешнеэканамічны партнёр Беларусі. Менавіта туды мы пастаўляем 90% нашай сельскагаспадарчай прадукцыі, трактары, аўтамашыны і гэтак далей. Калі пакупніцкая здольнасць у нашай суседкі рэзка ўпадзе, пацерпяць і нашы экспарцёры — нават у першую чаргу.

«Трывожны званочак» з гэтай нагоды ўжо гучыць. Газета «Коммерсантъ» адзначае, што ў Расіі існуе дэмпферны складнік зваротнага акцызу на нафту. Гэты механізм заклікаўны згладжваць ваганні цэн на паліва на ўнутраным рынку. У агульных рысах, калі экспартная цана бензіну і дызпаліва вышэй унутрырасійскай, то дзяржава кампенсуе нафтакампаніям частку гэтай розніцы, каб яны не падвышалі цэны ў РФ. А калі расійскія цэны будуць вышэйшыя за экспартныя, то нафтавікі падзеляцца з дзяржавай часткай свайго звышпрыбытку.

Але гэты дэмпфер быў разлічаны на іншы дыяпазон коштаў на нафту. У сённяшняй жа сітуацыі для Расіі асабліва небяспечныя магчымыя пастаўкі паліва з Беларусі, піша выданне. Бо Беларусь можа атрымліваць бязмытную нафту і вырабляць паліва значна танней за еўрапейскія НПЗ. Таму крыніцы «Коммерсанта» лічаць, што Расія павінна ўвесці загараджальную пошліну на імпарт паліва — у першую чаргу, нашага.

Калі такія захады будуць прынятыя, то, зразумела, нам гэта на карысць не пойдзе. Вось толькі цікавае пытанне — ці патаннее ў сувязі з «перавытворчасцю» бензін у Беларусі?

Наш экспарт можа таксама прасесці і з-за некаторых іншых рашэнняў у «саюзнікаў». На фоне ажыятажнага попыту краіны ЕАЭС, у які ўваходзіць і Беларусь, дамовіліся ўсталяваць часовую забарону на вываз з тэрыторыі саюза асобных відаў харчовых тавараў, паведамляецца на сайце Еўразійскай эканамічнай камісіі.

Часовую забарону на вываз з краін Еўразійскага эканамічнага саюза ўвядуць на рэпчатую цыбулю, часнык, рэпу, жыта, рыс, грэчку, проса, крупы, муку грубага памолу і гранулы з зерня злакаў, абдзёртае грачанае зерне, гатовыя харчовыя прадукты з грэчкі, драблёныя і недраблёныя соевыя бабы і насенне сланечніку. Іх вываз забараняецца на перыяд да 30 чэрвеня.

На думку ініцыятараў гэтага захаду, увядзенне забароны дазволіць забяспечыць насельніцтва дастатковай колькасцю такіх тавараў падчас абвастрэння санітарна-эпідэміялагічнага становішча. Раней у Беларусі былі складанасці з пастаўкамі рысу і грэчкі з Расіі. Прычына — суседзі забаранілі экспарт круп, але пазней адмянілі гэтае рашэнне.

Канешне, клопат пра нацыянальную харчовую бяспеку, і нават наднацыянальную — гэта даволі добра. Але пры гэтым нам трэба клапаціцца і пра сваю эканоміку. Напрыклад, у ЕАЭС не ўваходзіць другі наш буйны і ці не самы лепшы партнёр па бізнесе на постсавецкай прасторы — Украіна. Рашэнне Еўразійскай эканамічнай камісіі азначае, што шматлікія кіеўскія крамы з надпісам «Прадукты з Беларусі» могуць быць значна абмежаваныя ў асартыменце. Канешне, экспартаваць ва Украіну «насенне сланечніку» даволі складана, аднак што тычыцца «гатовых харчовых прадуктаў з грэчкі» (то-бок, кансерваў кшталту «Сняданак турыста», проста незаменных для ўкраінскіх вайскоўцаў у Данбасе), то тут, як кажуць, мы можам моцна памыліцца.

**Канешне, экспартаваць ва Украіну «насенне сланечніку» даволі складана, аднак што тычыцца «гатовых харчовых прадуктаў з грэчкі» (то-бок, кансерваў кшталту «Сняданак турыста», незаменных для ўкраінскіх вайскоўцаў у Данбасе), то тут мы можам моцна памыліцца**

Але ў нас будзе і ежа, і пітво. Паводле дадзеных Мінлясгасу, у Беларусі ўжо нарыхтавана 10 тысяч тон бярозавага соку. Сезон яго нарыхтоўкі завяршаецца, усяго па краіне насельніцтва ўжо выкупіла ў лясгасаў каля 2 тысяч тон соку і больш за 500 тон пастаўлена за мяжу.

Не прападзем!

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Віктар Дашкевіч

**Заслужаны артыст Беларусі, што памёр 30 сакавіка, стаў першай прызнанай ахвярай каронавіруса ў краіне.**

Гісторыя пра хваробу Дашкевіча друкавалася ў інтэрнэце: выданні са спасылкай на сваякоў пісалі, што Дашкевіч хварэў на пнеўманію і другі тэст на каронавірус у яго даў станоўчы вынік. З боку Міністэрства аховы здароўя не было ніякіх каментароў з гэтай нагоды. Толькі віцебскі абласны аддзел аховы здароўя паведаміў, што акцёр заразіўся падчас рэпетыцыі ад замежнага калегі.

Але ў пасведчанні аб смерці, якое выдалі сваякам акцёра, пазначана «неўдакладненая пнеўманія».

У студзені артысту споўнілася 75 гадоў. Віктар Дашкевіч ад 1973-га працаваў у Коласаўскім тэатры, з 1981-га па 1990-ы і з 1991-га па 2007 год выконваў абавязкі загадчыка трупы. На сцэне выканаў дзясяткі роляў. Заслужаны артыст Беларусі (2016), узнагароджаны медалём Францішка Скарыны (2010), ганаровымі граматамі Кабінета міністраў (1996) і Нацыянальнага сходу Беларусі (2006) ды іншымі ўзнагародамі.

Выказваем шчырыя спачуванні родным і сябрам Віктара Мікалаевіча Дашкевіча. Светлая памяць...

## Мікалай Статкевіч



**Палітык, старшыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Народная Грамада» заявіў, што ўжо сабраў групу «кандыдатаў пратэсту» на прэзідэнцкіх выбарах, якія пройдуць у Беларусі ў гэтым годзе.**

Раней Статкевіч агучваў стратэгію: пры адмове ў рэгістрацыі яго ініцыятыўнай групы на прэзідэнцкіх выбарах ён плануе зарэгістраваць некалькі дзясяткаў ініцыятыўных груп «кандыдатаў пратэсту», каб яны мелі магчымасць легальна праводзіць вулічныя акцыі ў перыяд збору подпісаў. Па словах Статкевіча, «апошнім» такім кандыдатам стаў блогер Сяргей Ціханоўскі (youtube-канал «Краіна для жыцця»). «Цяпер у нас 23 кандыдаты, апошнім стаў Сяргей Ціханоўскі. Ён заявіў пра гэта падчас інтэрв'ю са мной. Мы былі гатовыя прыняць, таму што абмяркоўвалі некалькі тыдняў таму. Для нас важна, каб блогеры былі ў ліку кандыдатаў пратэсту, і для іх гэта важна, яны аказваюцца ў глыбіні падзей, у пэўнай меры гэта дае палітычную і юрыдычную абарону», — сказаў Статкевіч.

Паводле яго словаў, для рэгістрацыі «кандыдатаў пратэсту» будзе сфарміраваная ўніверсальная ініцыятыўная група. «Безумоўна, ніхто з іх не будзе станавіцца кандыдатам у юрыдычным сэнсе і спрабаваць збіраць 100 тысяч подпісаў. Ініцыятыўную групу цяжка не зарэгістраваць. Будзе прыкладна гэтак жа, як мы збіралі подпісы падчас парламенцкай кампаніі. З самага пачатку кампаніі на пікетах кандыдатаў пратэсту будзем праводзіць масавыя мерапрыемствы. Будзем рабіць гэта таму, што выбараў няма, удзельнічаць у падтанцоўцы не хочам», — сказаў Статкевіч.

Сяргей Ціханоўскі — папулярны youtube-блогер (90 тысяч падпісчыкаў), падымае сацыяльныя праблемы рэгіёнаў, малога бізнесу, выступае з вострай крытыкай улады. Прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці за ўдзел у акцыях супраць паглыблення інтэграцыі з Расіяй.

## Уладзімір Самсонаў



**Беларускі спартовец, лідар зборнай па настольным тэнісе, пералічыў 10 000 еўра на дабрачынны рахунак для дапамогі беларускім медычным установам у барацьбе з каронавірусам.**

Самсонаў — шматгадовы лідар беларускай зборнай па настольным тэнісе. Ён удзельнічаў у шасці Алімпіядах, быў першай ракеткай свету. Акрамя таго, Самсонаў — трохразовы пераможца Кубка свету (1999, 2001, 2009), шасціразовы чэмпіён Еўропы ў розных разрадах, чатырохразовы пераможца «Еўра-Топ 12» (1998, 1999, 2001, 2007), дзевяціразовы пераможца еўрапейскай Лігі чэмпіёнаў.

Дабрачынны рахунак быў адкрыты Міністэрствам аховы здароўя.

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

**У беларускім грамадстве існуе кансэнсус, што 2×2=4. Прынамсі, я быў у гэтым упэўнены да таго часу, пакуль на прасторах інтэрнэта выпадкова не наткнуўся на сайт тэлеканала «Беларусь 1».**

# Адкрыццё выдатнага эканаміста




Тэлевізар я не ўключаю ўжо шмат гадоў, а тут не ўтрымаўся. Выбарачна паспрабаваў паглядзець перадачы, якія прэтэндуюць называцца аналітычнымі. Не пашкадаваў.

Пачну з рэкламнага слогана, размешчанага на галоўнай старонцы сайта тэлеканала, «які мае найбагацейшыя традыцыі і валодае самымі сучаснымі тэхналогіямі тэлевытворчасці»: «Галоўны тэлеканал краіны “Беларусь 1” — гэта: самая дакладная і аператыўная інфармацыя пра жыццё краіны, далёкае і блізкае замежжа».

Ну як тут было ўтрымацца! Дакладная і аператыўная інфармацыя заўсёды карысталася павышаным попытам у дзяржаве для народа. Ва ўмовах жа пандэміі, якая ахапіла ўвесь свет, каштоўнасць інфармацыі з такімі характарыстыкамі шматкроць павысілася.

Выпадкова абраў перадачу «Клуб рэдактараў» ад 13 сакавіка. Кампанія, якая брала ў ёй удзел, была не вялікая, але бардзо пажондна — пан вядучы, два паны галоўныя рэдактары дзяржаўных СМІ і ў якасці спецыяльнага госця — «выдатны эканаміст» (характарыстыка ад пана вядучага), доктар навук, загадчык кафедры адной з беларускіх ВНУ.

Абмяркоўваліся чатыры тэмы: каронавірус (як жа сёння без яго), нафта, долар і чорны піяр. Натуральна, не абышлося без рашучай водпаведзі расійскай прэсе, якая рэгулярна гоніць хвалю наконт нахлебніцтва Беларусі. Далей дазволю сабе працытаваць невялікі фрагмент дыскусіі.

Пытанне выдатнаму эканамісту ад пана вядучага: «Дык корміць нас Расія, утрымлівае ці не ўтрымлівае?»

Выдатны эканаміст: «Дапусцім, Беларусь раптам узяла (такога не будзе) і сышла ў NATO, і Расіі давядзецца ствараць групоўку, каб процідзейнічаць NATO ў 400–500 тысяч салдат. Дзе яны набяруць столькі людзей, дзе тэхнікі, і ў колькі гэта стане? Я думаю, па цане гэта абыдзецца ў гадавы ВУП Беларусі, не менш».

Сур'ёзныя пытанні, пагадзіцеся. Аднак перш, чым паспрабаваць знайсці на іх адказы, я вырашыў атрымаць даведку — і патэлефанаваў сябру, спецыялісту па праблемах бяспекі, кіраўніку аналітычнага цэнтра Belarus Security Blog Андрэю Паротнікаву.

На думку эксперта, верхняя мяжа колькасці вайскоўцаў у Беларусі не перавышае 55 тысяч чалавек. Атрымліваецца, што эфектыўнасць аднаго беларускага абаронцы Радзімы амаль на парадак пераўзыходзіць эфектыўнасць расійскага...

Чым абумоўленая такая дыспрапорцыя ў ратным ККД? На ўзроўні фармальнай логікі тут магчымыя два варыянты адказу: або гэта выклікана фантастычным прагрэсам беларускай арміі за апошнія гады, або поўнай дэградацыяй арміі расійскай.

Але нешта мне падказвае, што параўноўваць крутасць дзвюх армій Саюзнай дзяржавы — справа няўдзячная. Прычыну дыспрапорцыі варта шукаць у «выдатным эканамісце», абцяжараным пачуццём адказнасці перад ідэалагічнай і іншымі вертыкалямі.

**Не толькі беларускі, але практычна ўсе постсавецкія рэжымы (краіны Балтыі, зразумела, мы не лічым) спрабуюць сёння падтрымліваць стабільнасць не за кошт энергіі насельніцтва, а за кошт яго пасіўнасці**

### Пра ролю культурнага героя

«Веды, якія не змяняюць паводзінаў, бескарысныя», — сцвярджае ізраільскі гісторык Юваль Харары, кнігі якога разыходзяцца шматмільённымі накладамі. Канчатковая мэта прапаганды якраз — змяненне паводзінаў. Пры гэтым зусім не абавязкова пад паводзінамі разумець набор пэўных учынкаў. Хутчэй наадварот: у нашы дні правільныя паводзіны азначаюць поўную адмову ад якой-небудзь самастойнай актыўнасці.

Гэта на досвітку савецкай улады Ленін разважаў пра «жывую творчасць масаў». Правадыр сусветнага пралетарыяту быў схільны падзяляць «асноўную памылку інтэлігенцыі», г. зн. веру ў здольнасць народа, калі яго вызваліць ад прыгнёту начальства і эксплуататараў, самастойна наладзіць сваё жыццё. Канкрэтнае ўвасабленне гэтай ідэі палягала ў ідэалізацыі Саветаў.

Аднак правадыр, калі сутыкнуўся з хаосам, спароджаным «трыумфальным шэсцем савецкай улады», быў вымушаны павярнуцца на 180 градусаў і заявіць, што «Саветы і дыктатура сумяшчальныя». Вынікам развароту і стала палітыка ваеннага камунізму.

Сталінская індустрыялізацыя запатрабавала максімальнай мабілізацыі энергіі масаў, але пад жорсткім кантролем «Ордэна мечаносцаў». Не выпадкова ў сацыялогіі савецкае грамадства прынята называць «грамадствам мабілізацыйнага тыпу». Перабудова падвяла рысу пад такім грамадствам. Таму не толькі беларускі, але практычна ўсе постсавецкія рэжымы (краіны Балтыі, зразумела, мы не лічым) спрабуюць сёння падтрымліваць стабільнасць не за кошт энергіі насельніцтва, а за кошт яго пасіўнасці.

Галоўная задача прапаганды пры гэтым зводзіцца да доказу адсутнасці адказу на пытанне: «Калі не ён, то хто?» Зразумела, што ў кожнай постсавецкай рэспубліцы знайшоўся свой «ён». У поўнай адпаведнасці з роляй культурнага героя ў міфалогіі, «ён» творча пераўтварае свет, лепіць яго з першабытнага (г.зн. постперабудовачнага) хаосу. Натуральна, з улікам нацыянальных асаблівасцяў канкрэтных рэспублік.

«Міф, — сцвярджае расійскі гісторык Уладзімір Булдакоў, — вырастае на глебе агульнага страху перад варожым асяроддзем». Не ўпэўнены, што «выдатны эканаміст» знаёмы з гэтым выказваннем, але тое і не трэба. Яго 400–500 тысяч расійскіх вайскоўцаў, неабходных для замены 55 тысяч беларускіх вайскоўцаў — тыповы прыклад канструявання варожага акружэння. На фоне такой арыфметыкі любыя размовы пра нахлебніцтва выглядаюць недарэчнымі.

### Ад атамнага стагоддзя да інфармацыйнага

Аднак працягну цытаваць Харары: «Веды, якія змяняюць паводзіны, хутка губляюць актуальнасць». Гэтая азбучная ісціна знаёмая кожнаму прапагандысту нават і без падказкі ізраільскага гісторыка. Прапаганда — гэта як язда на ровары. Варта толькі перастаць круціць колы — і страта раўнавагі (стабільнасці) становіцца фактам, дадзеным веласіпедысту ў вельмі балючых адчуваннях.

Паўзы прапагандзе супрацьпаказаныя не толькі таму, што, парушаючы законы прыроды, яе колы здольныя круціцца паводле прынцыпу Perpetuum Mobile. Не, з законамі прыроды ўсё ў парадку. Бесперапыннасць жа руху забяспечваецца за кошт бюджэтных сродкаў, г. зн. сродкаў, якія канфіскуюцца «дзяржавай для народа» з кішэняў гэтага самага народа. А займацца гэтым не стамляецца кожная дзяржава.

Дваццатае стагоддзе было прынята называць «атамным», дваццаць першае — інфармацыйным. Адпаведна, і перамога ў супрацьстаянні паміж фізікамі і лірыкамі пачала схіляцца на карысць лірыкаў. «Аналагічна капіталізму і камунізму, — тлумачыць Харары, — дэмакратыі і дыктатуры з'яўляюцца па сутнасці канкуруючымі механізмамі збору і аналізу інфармацыі. Дыктатарскія рэжымы выкарыстоўваюць цэнтралізаваныя метады, а дэмакратыі аддаюць перавагу размеркавальным. У апошнія дзесяцігоддзі дэмакратыі вырваліся наперад, таму што ва ўнікальных умовах канца XX стагоддзя размеркавальная апрацоўка даных аказалася эфектыўнейшай».

У мінулым, аднак, больш дзейснай была цэнтралізаваная. Прыкладаў гэтаму ў гісторыі мноства. У прыватнасці, таму была зруйнаваная Рымская Рэспубліка і ўлада перайшла ад сената ў рукі імператара-аўтакрата. Аналагічны пераход мы мелі магчымасць назіраць у Беларусі ў 1994 годзе.

### Верхам на любімым кані

Аднак часы мяняюцца. У год першых прэзідэнцкіх выбараў большасць беларусаў рашуча пакрочыла ў мінулае, але вярнуцца ў яго так і не здолела. У гісторыі, калі што і паўтараецца, дык выключна ў выглядзе фарсу. Меў рацыю стары Геракліт (жыў у 544–483 гадах да н.э.), які папярэджваў пра немагчымасць двойчы ўвайсці ў адну і тую ж раку.

Практычна поўная цэнтралізацыя грамадска значнай інфармацыі ў руках дзяржавы на савецкі ўзор сёння недасяжная. Але, як у вядомым анекдоце, немагчымасць пакахаць усіх жанчын не адмяняе імкнення да максімальнага задавальнення патрэбы ў сексуальнай разнастайнасці. Сустрэча адзінага палітыка (АП) з кіраўнікамі вядучых дзяржаўных СМІ, якая адбылася 11 лютага, гэтую ісціну пацвердзіла.

Кіраўнікі дзяржаўных СМІ ў Беларусі пазбаўленыя самастойнасці. Яны — усяго толькі даручэнцы, што і пацвердзіў АП у пачатку свайго выступу: «Надышоў момант абмеркаваць выкананне даручэнняў, дадзеных вам у тым ліку і падчас прызначэння».

АП канстатаваў геапалітычную нестабільнасць у свеце і ў «нашым рэгіёне» ды сеў на свайго любімага каня з мянушкай «Інфармацыйная бяспека»: «Падтасаваныя факты, фэйкі, дыпфейкі, так званая постпраўда, калі аўдыторыяй умела маніпулююць, наўмысна адводзячы ад сапраўды важных праблем, — гэтая і іншая інфармацыйная атрута падобная да хімічнай зброі. Ці тое яшчэ будзе».

Прароцтва спраўдзілася. У выкананні «выдатнага эканаміста» на тэлеканале «Беларусь 1» увесь гэты пералік і быў прадэманстраваны гораду ды свету. Мяркую, не першы і не апошні раз.

# Шматдзетная сям’я змагаецца за хатняе навучанне

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Сям’я Яўгена Брыцько і Ірыны Дзятлоўскай з Мазыра — з тых, што разбураюць стэрэатыпы. Прычым ненаўмысна — проста так складваецца жыццё. Сужэнцы разам ужо дзевятнаццаць гадоў, маюць пяцярых дзяцей, пры гэтым у Яўгена і дваіх дзяцей — інваліднасць па зроку.**



**Сям’я Яўгена Брыцько і Ірына Дзятлоўскай.** Фота з архіва герояў

### Каханне з першага гуку

Пакуль Ірына з другім сынам, Маркам, у паліклініцы, а старэйшы, Георгій, — на вучобе ў Гомелі, Яўген прымае мяне дома з трыма малодшымі — Францыскам, Касіяй і Лукой.

Малеча тут жа ідзе да мяне знаёміцца і паказваць свае цацкі. Гаспадар запарвае гарбату, а я выказваю думку, што шматдзетныя сем’і сёння — рэдкасць. На што Яўген адказвае: сама сям’я сёння — рэдкасць. Увогуле, яны з Ірынай не думалі, што стануць шматдзетнымі бацькамі.

— Мае бацькі невідушчыя, і, маючы генетычнае захворванне, я разумеў, што з дзяўчынай, якая будзе жыць са мной, мы будзем мець пэўныя рызыкі. І мае бацькі папярэджвалі Ірыну, што будзе цяжка.

Яўген, як і яго жонка, нарадзіўся ў Мазыры, але школьныя гады правёў у спецыялізаваным інтэрнаце для дзяцей з парушэннямі зроку ў Гродне. Пасля вярнуўся ў родны горад і сем гадоў працаваў у сістэме БелТІЗ. Ірына ж вучылася ў Мазыры на настаўніка гісторыі і філалога, потым выкладала ў школе. Маладыя людзі сустрэліся ў агульнай знаёмай. На той момант Ірына сябравала з мясцовым мастаком, і Яўгену давялося пазмагацца за яе сэрца.

— Я пачуў дзяўчыну з выбітным, фантастычным голасам. Бо ёсць манера размовы: тэлевізійная ці, як цяпер, ютубная. Калі ты іх чуеш, можаш даведацца, адкуль чалавек бярэ больш інфармацыі, — распавядае Яўген.

— А мне вельмі спадабалася, што ён піша свае вершы. Я ніколі не пісала вершаў, не грала на музычных інструментах, і мне заўжды падабаліся людзі, якія ўмеюць гэта рабіць, — вярнуўшыся, далучаецца да гутаркі Ірына.

Маладыя людзі распісаліся, нічога не сказаўшы нават бацькам. Таму навіна для апошніх стала шокам: яны спачатку не паверылі, а цётка Ірыны ўвогуле на некалькі гадзін страціла маўленне ў прамым сэнсе.

— Мы зрабілі гэта не толькі таму, што нас бы не дабраславілі, а больш з пратэсту супраць таго, каб ладзіць пышнае вяселле і выдаткоўваць на яго шалёныя грошы, — тлумачыць Яўген.

Пазней, праўда, вяселле ўсё ж зладзілі, а таксама павянчаліся. Цяпер Ірына параўноўвае рашэнне стварыць сям’ю са скачком з мосту. І ў час размовы шчыра прызнаецца:

— Без веры тут не абысціся. Я думаю, што без яе наш шлюб распаўся б. Бо па-сапраўднаму кахаць пачынаеш толькі цяпер, прайшоўшы праз пэўныя выпрабаванні.

### Цэтлік шматдзетнасці

Ірына, якую, між іншым, год таму ўзнагародзілі Ордэнам Маці, таксама, як і Яўген, не думала, што будзе мець вялікую сям’ю.

— Я сама са шматдзетнай сям’і. Ведаеце, гэты цэтлік — «шматдзетная сям’я» — асацыюецца з нейкімі абадранцамі, асацыяламі, дэструктыўнымі паводзінамі. І я разумела: каб уладкавацца ў грамадства, я дакладна не павінна быць шматдзетнай. Хаця ў мяне была любоў да малодшых сясцёр, мне падабалася з імі бавіцца, але я думала, што гэта няправільна. І калі мы даведаліся, што ў нас незапланавана будзе Францыск (трэці сын. — НЧ.), гэта быў такі цуд, які дапамог нам вырасці і многае зразумець. Чацвёртае дзіця мы самі ўжо хацелі, а пятае — гэта наш падарунак.

Але калі свае перакананні аб шматдзетнасці пары перамяніць удалося, то навакольнае грамадства, у асноўным, працягвае жыць стэрэатыпамі.

— Калі ты беспрацоўны ці шматдзетны, то пастаянна мусіш нешта даказваць навакольным. Але чаму я павінна нешта даказваць? Ад гэтага вельмі стамляешся, — зазначае Ірына.

Яна прызнаецца, што часам увага да іх сям’і павышаная праз тое, што яны адрозніваюцца ад іншых і робяць так, як многія не сталі б рабіць. Напрыклад, калі старэйшыя дзеці былі маленькімі, мама, каб не губляць час, чытала ім услых у транспарце.

— Але насамрэч я не адчуваю, што сваім прыкладам неяк мяняю грамадства навокал. Калі раней такія думкі былі, то цяпер няма, а ёсць пэўная стомленасць.

### Выйсці з «невідушчага гета»

Бацькі прызнаюцца, што кожнае дзіця чакалі з пэўным страхам — у сувязі з магчымымі праблемамі са здароўем. Першы сын, Георгій, атрымаў у спадчыну ўсе бацькавы хваробы, у тым ліку праблемы са зрокам. Гэтая акалічнасць у свой час паўплывала на тое, каб Яўген завочна паступіў у БДПУ і атрымаў спецыяльнасць ціфлапедагога-дэфектолага, настаўніка пачатковых класаў.

— Зрабіў я гэта не для выкладання, а, хутчэй, для сябе. Бо Георгій падрастаў, і аддаваць у інтэрнат мы яго не хацелі. Інтэрнат, канешне, дае нейкую сталасць. Але калі чалавек да чагосьці імкнецца, то туды ехаць не трэба. Бо на той момант сістэма інтэрнатаў была накіраваная на БелТІЗ. Усе, хто адтуль выходзіў, разумелі, што не трэба нікуды цягнуцца, БелТІЗ усіх чакае.

Яўген здолеў выйсці з, як ён кажа, «невідушчага гета», і для сваіх дзяцей таксама жадае іншай долі. Так, усіх іх стараюцца развіваць творча і рознабакова. Напрыклад, 17-гадовы Георгій, нягледзячы на праблемы са зрокам, баяніст, цяпер ён вучыцца ў каледжы на другім курсе. Сямікласнік Марк, у якога са зрокам усё ў парадку, спрабуе граць на фартэпіяна, раней маляваў, але цяпер аддаў перавагу спорту. Чацвёртакласнік Францыск грае на трубе. Пяцігадовая Касія — таксама вучыцца на фартэпіяна, але душа больш ляжыць да спеваў. Толькі двухгадовы Лука яшчэ маленькі, таму пакуль што не заняты ніякімі гурткамі.

Але сапраўднае захапленне ў сям’і Яўгена Брыцько і Ірыны Дзятлоўскай — гэта чытанне. Кнігі — тое, што найбольш рознабакова развівае чалавека, перакананыя сужэнцы. Яны нават думаюць пра тое, каб распачаць сваю справу, звязаную з кнігамі, далучыліся да сеткі сацыяльных прадпрыемстваў CINGO, якая дапамагае наладзіць камунікацыю і дзяліцца рознымі бізнес-кампетэнцыямі. Адзін час сужэнцы хацелі стварыць у горадзе краму-кавярню «Кніга ці кава», але ідэя так і не развілася з шэрагу прычын. Цяпер усё часцей задумваюцца пра агучванне аўдыякніг, тым больш, што Ірына — сапраўдны майстар прыгожага чытання, якім заслухоўваюцца не толькі дзеці, але і муж.

### Замест творчасці і самастойнасці — фармалізм

Яшчэ адна мара сям’і — перавод дзяцей на індывідуальнае навучанне. Старэйшы Георгій быў на хатнім навучанні паводле стану здароўя — бацькам удалося яго пакінуць дома, а не адпраўляць у інтэрнат, хаця фармальна ён лічыўся пры гэтай установе. Потым хлопца не хацелі залічваць у школу, але і гэтае пытанне ўдалося вырашыць.

— Сістэма адукацыі не прыстасаваная да надомнікаў і індывідуальнай працы. Настаўнік прыходзіць з тым, каб правесці занятак для класа, а перад ім сядзіць адзін чалавек. Некаторыя ўвогуле прыходзілі і чыталі тэму з падручніка. Навошта? — абураецца Яўген.

Марк і Францыск пакуль у школу ходзяць. У бацькоў былі спробы перавесці іх на індывідуальнае навучанне, але ў школьнай адміністрацыі няма фармальных падстаў для гэтага. Але Яўген і Ірына мяркуюць, што старэйшых дзяцей ужо позна пераводзіць на хатняе навучанне, паколькі яны прыстасаваліся да школьнай сістэмы.

— Апошнія гадоў 20 школа — гэта толькі «камера захоўвання». Выкладчыкі цяпер, у асноўным, — толькі працаўнікі сістэмы адукацыі, бо сапраўднаму настаўніку ў школе цесна. Хаця раз-пораз такія настаўнікі там здараюцца. Але на сённяшні час школа не ведае, што фарміраваць у дзяцей. Запыту няма ніадкуль, апроч таго, што трэба падрыхтаваць выпускнікоў да ЦТ. Школа адбівае ў чалавека самастойнасць выбару, — мяркуе Яўген Брыцько.

— Цяпер такога няма, але яшчэ год таму, калі я вадзіла дзяцей у школу, у мяне быў жах, — распавядае Ірына. — Мне не падабалася стаўленне дзяцей адно да аднаго. Я бачыла, што яны агрэсіўныя, іх жарты былі дзікімі для мяне. Настаўнікі часта мяняліся, і гэта былі, па сутнасці, дзеці, якія самі яшчэ не ведаюць, хто яны такія, а ўжо выхоўваюць маіх дзяцей. І што яны могуць ім даць, калі самі сабе яшчэ не задалі важныя жыццёвыя пытанні? Я кажу нават пра сябе: калі выкладала першы год пасля ўніверсітэта, я адчувала, што крышачку... хлусіла. Таму што ты кажаш нейкія высокія словы, напісаныя ў тваім канспекце, кшталту «выхаваць грамадзяніна, патрыёта» — а ці сама дацягваеш да грамадзяніна і патрыёта?..

Па словах Ірыны, у школе выпустошваюць цікаўнасць да вучобы, дзеці перастаюць вучыцца, а проста выконваюць тое, што ім задаюць. Вучаць не творчасці, а фармалізму, не «працаваць», а «работать». І ўзровень ведаў у школе нават не сярэдні, а ніжэйшы за сярэдні. Шмат часу там дзеці проста марнуюць, тым больш, што пры сучасным развіцці тэхналогій існуе дастаткова анлайн-пляцовак, дзе можна атрымліваць веды, перакананы Яўген. На думку бацькоў, няма праблемы ў тым, каб здаваць кваліфікацыйныя іспыты ў школе, атрымліваючы веды дома і фарміруючы заняткі паводле ўласных жаданняў і патрэбаў. А калі дзіця не здасць кваліфікацыйны мінімум, то яно можа вярнуцца ў клас.

Сужэнцы пагаджаюцца, што такая сістэма падыдзе не для ўсіх, а толькі для самастойных і адказных дзяцей і бацькоў, якія, да таго ж, не загружаныя працай і маюць вольны час. Менавіта таму Яўген параўноўвае школу з камерай захоўвання: большасць людзей, прыязджаючы на вакзал і маючы вольны час, здаюць туды валізы, каб не хадзіць з імі па горадзе. І толькі адзінкі носяць торбы з сабой. Гэтак жа і з навучаннем дзяцей дома: на такое могуць пайсці адзінкі. І тое, і другое — нармальна, падкрэсліваюць бацькі.

— Калі мы змагаліся за навучанне Жоркі, я амаль напамяць вывучыў увесь Кодэкс аб адукацыі. Але заўжды хочацца з сістэмай вырашаць пытанні па-чалавечы. Аднак з ёй па-чалавечы немагчыма. Дамовіцца з сістэмай не атрымаецца ніколі. Працуе толькі веданне сваіх правоў і таго, што вам трэба. А так сістэма насустрач не пойдзе.

Беларуская школьная мадэль, як і сістэма адукацыі агулам, далёкая ад ідэалу. Відавочна, што з многімі сваімі задачамі яна не спраўляецца. І прыкра, што сем’ям, дзе на належным узроўні трымаюць планку ведаў, выхавання, творчасці, яна не толькі не дапамагае, а часам наўпрост замінае.

# Калі вы захварэлі: парады

**Павел Васюкевіч, доктар з Мінска, які сёння працуе ў Германіі анестэзіёлагам-рэаніматолагам, дае парады пра тое, што кожны можа зрабіць для сябе, калі ў яго з'явіліся сімптомы прастуды.**

— Я прапаную зыходзіць з таго, што любая прастуда, якая ў вас цяпер з'явілася — гэта каронавірус, — тлумачыць ён. — Дый каронавірус — гэта захворванне ў большасці сваёй не смяротнае, вылечнае, і многія не заўважаць, што ім перахварэлі. Калі ў вас з'явіліся якія-небудзь сімптомы прастуды: тэмпература 37, пяршыць у горле, насмарк — заставайцеся дома. Арганізм здаровага чалавека, калі яму стварыць мінімальна аптымальныя ўмовы, справіцца сам.

Аднак лекар падкрэслівае, што гаворка менавіта пра лёгкае цячэнне хваробы ў здаровых людзей і людзей з добра кантраляванымі медыкаментозна хранічнымі захворваннямі ў стадыі рэмісіі.

Пры гэтым Павел адзначае: не ўсе правільна разумеюць, што значыць стварыць аптымальныя ўмовы для выздараўлення.


Фота www.gazetaby.com
Павел Васюкевіч

**Не нагружайце паліклініку. За выдаткаваны на вас час лекары маглі б дапамагчы чалавеку, які задыхаецца, якому сапраўды трэба экстрана аказаць медыцынскую дапамогу. Вы самі сабе здольныя дапамагчы больш, чым сістэма аховы здароўя**

— Гэта не значыць, што трэба наесціся, выпіць 100 грамаў, пайсці ў сауну і сесці на трактар. Гэта ўсё выдатна, калі вы здаровыя. Калі ж арганізм хварэе — гэта толькі нашкодзіць. Лазняй вы абязводжваеце арганізм, збіваеце тэрмарэгуляцыю, тое ж самае з абціраннем, з кантрасным душам — гэта не працуе. Падчас захворвання забудзьцеся пра меры загартоўвання — гэтыя захады прымаць позна.

Першае і галоўнае, што трэба зрабіць у гэтым выпадку — заставацца дома.

— Калі вы выйдзеце з дому, то вы заразіце наступнага чалавека, — адзначае лекар.

Павел Васюкевіч таксама не раіць ісці ў паліклініку, калі сімптомы хваробы лёгкія. Пры гэтым ён заклікае застацца дома, пры неабходнасці паспрабаваць атрымаць бальнічны па тэлефоне, а працадаўцам дазволіць не прыходзіць на працу з тэмпературай 37, не патрабаваць лішніх дакументаў.

— Не нагружайце паліклініку. За выдаткаваны на вас час лекары маглі б дапамагчы чалавеку, які задыхаецца, якому сапраўды трэба экстрана аказаць медыцынскую дапамогу. Вы самі сабе здольныя дапамагчы больш, чым сістэма аховы здароўя, якая можа пачаць захлынацца ад хворых.

Пры лёгкім цячэнні хваробы лекар раіць спачатку паспрабаваць справіцца з сітуацыяй самастойна. І калі не атрымаецца, тады звяртацца да медыкаў.

Тое ж самае тычыцца і бальніц. Лекар лічыць, што без неабходнасці не варта настойваць на шпіталізацыі:

— Памятаеце, на сёння лекаў ад каронавіруса не існуе. Вы самі дома можаце піць ваду, прымаць гарачкапаніжальныя прэпараты. А ісці ў бальніцу з тэмпературай 37 — гэта злачынства. Злачынства супраць сваіх жа суседзяў, сяброў, сваякоў, якія, можа быць, сапраўды маюць патрэбу ў медыцынскай дапамозе.

Да таго ж, трапляючы ў бальніцу, ёсць рызыка атрымаць звышінфекцыю на той вірус, які ў чалавека ўжо ёсць. А таксама атрымаць непатрэбнае лячэнне.

— Таму што няма стандарту лячэння, кожны лекар зыходзіць са свайго вопыту і магчымасцяў, якія яму дае сістэма аховы здароўя і бальніца ў прыватнасці, — тлумачыць

# Чаму мы баімся пандэміі

Наталля БЕНІЦЭВІЧ / TUT.BY

**Псіхалагічна складана справіцца з усёй інфармацыяй наконт каронавіруса. У кагосьці гэта выклікае неспакой, у кагосьці — паніку, хтосьці, каб суцішыць трывогу, ідзе закупляцца прадуктамі. Ці варта змагацца са сваёй трывогай і як ёй даць рады? А самае галоўнае, як перажыць увесь гэты перыяд без псіхалагічных траўмаў? Пра гэта распавяла псіхолаг, гештальт-тэрапеўт Вікторыя Пякарская.**

### Чаму мы адчуваем трывогу з-за нявызначанасці?

***— Цяпер шмат рознай інфармацыі пра каронавірус. Пра гэта пішуць СМІ, людзі робяць пасты ў сацсетках, размаўляюць паміж сабой. Многія цяпер непакояцца з-за каронавіруса і таго, што будзе далей. Гэта нармальныя перажыванні для чалавека?***

— Вядома, страх — гэта нармальна. Дзіўна, калі ў падобнай сітуацыі чалавек нічога не адчувае ды цалкам ігнаруе тое, што адбываецца. Сітуацыя становіцца ненармальнай, калі хтосьці аказваецца цалкам паглынуты страхам і не ў стане больш нічым іншым займацца, ні пра што думаць. Норма — умераны страх.

Трэба разумець, што мы ўсе знаходзімся ў адной лодцы, і няма нікога, хто б дакладна ведаў, як сябе правільна паводзіць у падобнай сітуацыі. Мы ўсе азіраемся адзін на аднаго, і ніхто — ні вузкія спецыялісты, ні аналітыкі — не могуць улічыць, прадказаць усе наступствы таго, што адбываецца.

Кожны з нас так ці інакш праходзіць праз чатыры этапы пражывання стрэсавай сітуацыі. Спачатку ўзнікае жаданне ўсё адмаўляць, пасля адмаўлення надыходзіць перыяд агрэсіі, затым так званы «гандаль», калі мы пачынаем думаць «а калі я сябе буду паводзіць правільна, дык, можа быць, мяне гэта не закране?» Мы нібы спрабуем дамовіцца з нязручнай нам рэальнасцю. Пасля «гандлю» надыходзіць чацвёрты этап — прыняцце сітуацыі.



Фота www.nzz.ch

Людзі з майго атачэння цяпер бліжэй да стану «гандлю». Адмаўленне і злосць з нагоды зменenага з-за каронавіруса свету ўжо прайшлі, замест іх з'явілася надзея абысціся, што называецца, малой крывёй, і ў галаве круцяцца думкі накшталт «мяне гэта не закране», «ва ўсіх так, а ў мяне будзе інакш».

Чаму так? Большасць маладых і сацыяльна актыўных людзей нарадзіліся і жывуць у свеце, дзе апошнія 40 гадоў усё параўнальна добра. І, натуральна, у такім выпадку лёгка прытрымлівацца ілюзій, што добра будзе і далей. Адсутнасць глабальных катастроф і агульнасусветных праблем расслабляе, пачынае здавацца, што гэта і ёсць норма, так было заўсёды, ёсць і будзе.

Але жыццё натуральным чынам нестабільнае, планета не была створаная спецыяльна для таго, каб чалавеку тут было добра. Хутчэй, мы, людзі, коштам вялікіх намаганняў ствараем бяспеку, імкнёмся наладзіць камфортнае сумеснае пражыванне, назапашваем сілы і рэсурсы, каб зладзіць сабе лепшае жыццё. А свет — як жывы арганізм — не стаіць на месцы, і на змену перыяду дабрабыту прыходзяць крызісы, якія патрабуюць мабілізацыі і сумесных намаганняў. І цяпер менавіта такі момант.

Ад таго, наколькі мы цяпер здолеем аб'яднацца ў імкненні пераадолець крызіс, падтрымаць адзін аднаго, тых, хто побач, заняцца чымсьці карысным, і залежыць наша бягучая душэўная раўнавага і будучы дабрабыт.

***— Чаму наогул узнікае трывожны стан?***

— На падзеі знешняга і ўнутранага свету мы рэагуем узбуджэннем. Напрыклад, вы адкрылі артыкул, прачыталі нейкую чарговую навіну, спалохаліся — з'явілася фізічнае ўзбуджэнне. Далей добра б яго на нешта выдаткаваць. У дзікай прыродзе гэта ўзбуджэнне падыходзіць для таго, каб уцякаць або змагацца, выдаткоўваць энергію адрасна. Але, седзячы за кампутарам, ядзе няма куды падзецца. Мы рэфлекторна пачынаем рэгуляваць сваё ўзбуджэнне, стрымліваючы дыханне. А далей па формуле: узбуджэнне мінус кісларод — роўна трывога як плата за знешні спакой.

Перажыванне трывогі падсілкоўвае трывожныя думкі, ад іх узбуджэнне зноў нарастае, трывога павялічваецца. Вядома, было б добра чымсьці заняцца, выдаткоўваючы гэта ўзбуджэнне, — зрабіць штосьці карыснае для сябе або для іншых.

***— Напрыклад, закупіцца прадуктамі ў крамах?***

— Так, сапраўды, тыя, хто робіць запасы, спрабуюць справіцца са сваёй трывогай.

# доктара

Павел Васюкевіч. — Таму я вам не раю трапляць у эпідэмію ў бальніцу. Катэгарычна не раю. Гэта не толькі палегчыць працу дактароў, але і вы, калі ў вас лёгкае цячэнне хваробы, не падхопіце якую-небудзь суперінфекцыю, якая можа пагоршыць стан здароўя.

## Што рабіць, калі вы захварэлі і застаецеся дома?

Праветрывайце і ўвільгатняйце паветра. Тэмпература павінна быць набліжаная да 20 градусаў.

Максімальна абмяжуйце кантакты з хатнімі. Калі вы захварэлі, менавіта вы павінны насіць маску.

Піце шмат (гэты пункт не датычыцца людзей з ныркавай і сардэчнай недастатковасцю і хранічнымі захворваннямі). Сухі язык, сухія паловы скуры сведчаць, што ў вас парушаны пітны рэжым.

Кантралюйце таксама мачавыпусканне. Калі мача цёмнага колеру — значыць, пітны рэжым парушаны, і трэба больш піць.

Ужывайце ежу з лёгка засваяльнымі вугляводамі (напрыклад, кашы). Калі няма апетыту, тады піце салодкія напоі (морсы, узвары, салодкую гарбату) — менавіта глюкоза з'яўляецца крыніцай энергіі. Пахуданне пакіньце на потым.

Не ляжыце, нават калі вам складана перасоўвацца. Пры руху вы стымулюеце харканне макроты і ачышчаеце дыхальныя шляхі ад назапашанай там слізі. Гэта важна, таму што ўскладненнем каронавіруса з'яўляецца пнеўманія.

Кантралюйце тэмпературу, частату дыхання, сардэчных скарачэнняў, артэрыяльны ціск.

Збівайце тэмпературу гарачкапаніжальнымі прэпаратамі ў стандартнай дазіроўцы. Памятаеце, лекаў ад каронавіруса няма! Калі тэмпература не зніжаецца, пракантралюйце свой пітны рэжым — у абязводжаным арганізме прэпарат не будзе працаваць. Калі ж з пітным рэжымам усё добра, а тэмпература не зніжаецца — гэта ўжо падстава звярнуцца да ўрача.

Нос павінен дыхаць. Інакш макрота будзе высыхаць і засяляцца ў лёгкіх (праз рот дыханне не ўвільгатняецца). Дыхаць носам дапамогуць сасудазвужальныя кроплі.

Таксама ўвільгатняйце нос, калі адчуваеце, што пасля кропель слізістая носа сухая. Для гэтага можна выкарыстоўваць спрэй (на літр вады тры грамы паваранай солі). Толькі не перастарайцеся, не трэба залiваць вялікую колькасць.



Фота www.m.business-gazeta.ru

Праз пот сыходзяць электраліты, таму аднавіць іх страту дапамогуць электралітныя растворы. Раствор можна прыгатаваць і ў хатніх умовах: на літр звычайнай кіпячонай вады 3 грамы паваранай солі. Калі туды яшчэ дадаць цукар, атрымаецца ўжо глюкоза-электралітны раствор.

Не трэба піць соду! Гэта можа толькі пагоршыць стан.

Людзі, якія прымаюць лекі на працягу ўсяго жыцця (гіпертонікі, дыябетыкі, астматыкі) падчас эпідэміі не павінны спыняць прыём. Адзінае выключэнне — гэта інгібітары АПФ. Наконт іх парайцеся з вашым лекарам.

Асцярожней з адхарквальнымі сродкамі. Калі вы недастаткова п'яце, але карыстаецеся адхарквальныя сродкі, яны, як дыурэтыкі, будуць выводзіць ваду з вашага арганізма, толькі не праз ныркі, а праз лёгкія. Так з'яўляецца вялікая колькасць макроты, кашаль раздражняе слізістую і павялічвае запаленне. Каб знізіць непрадуктыўны кашаль, дастаткова піцьва і змякчальных посцілак, якія памяншаюць раздражненне верхніх дыхальных шляхоў.

Заўсёды заставайцеся на сувязі. Зрабіце так, каб быць даступным і ў выпадку неабходнасці папрасіць пра дапамогу.

І хутчэйшага выздараўлення!

**Паводле gazetaby.com, пераклад НЧ**

---

Часта так дзейнічаюць людзі старэйшага пакалення, яны проста просяць унукаў закупіцца на ўсялякі выпадак. І лепш з імі не спрачацца, а купіць, хай яны сябе адчуваюць спакойна. Навошта лішні раз палохаць тых, хто ўжо калісьці меў свой падобны траўматычны вопыт?

Аднак такія закупкі звязаныя не толькі з жаданнем суцішыць трывогу. Хтосьці робіць гэта таму, што яму здаецца, што ў выпадку каранціну будуць чэргі, і таму прасцей усё набыць цяпер, пакуль іх няма. Хтосьці сумняваецца, што неабходнае будзе заўсёды, асабліва, калі сітуацыя зацягнецца. Хтосьці імкнецца мінімізаваць свае паходы ў крамы — і спрабуе закупіцца на месяц наперад. То-бок, у кожнага свае матывы. Яны могуць быць панічнымі або цалкам рацыянальнымі, кожны жыве ў адпаведнасці са сваёй тэорыяй таго, што адбываецца. І справа нават не ў тым, што ўсе думаюць пра такую магчымасць, як раптоўнае знікненне прадуктаў з крамаў — тут, хутчэй, пытанне асабістай філасофіі і асабістых прагнозаў з нагоды таго, што адбываецца.

## Як дапамагчы сабе справіцца з неспакоем?

***— Са страхам можна змагацца?***

— Наогул ні з чым змагацца не трэба. Нашы эмоцыі і перажыванні трэба ўспрымаць як нешта жывое — яны прыходзяць, нараджаюцца, нейкі час жывуць і таксама нас пакідаюць. І пытанне ў тым, каб гэты страх, як і іншую эмоцыю або пачуццё, заўважыць, назваць («гэта страх») і любым камфортным спосабам перапрацаваць, прапусціць праз сябе ці, напрыклад, сябе супакоіць. Вы заўважалі, што дзеці, калі да іх не падысці, пачынаюць самі сябе закалыхваць? У іх выпрацоўваецца навык самасуцяшэння. Добра, калі ў дарослага ёсць свой спосаб: напрыклад, уключыць прыемную музыку, захінуцца ў плед і піць гарбату, гладзіць ката, рабіць запісы ў дзённіку.

***— Якія яшчэ ёсць методыкі?***

— Ёсць вядомая абыходкавая фраза: у крытычнай сітуацыі ты не падымешся да ўзроўню сваіх чаканняў, а ўпадзеш да ўзроўню сваёй падрыхтоўкі. Добра, калі ў сітуацыі стрэсу чалавек будзе рабіць тое, што ўмее. Выкарыстоўваць той спосаб, які ён ужо выкарыстаў раней. Таму спешна вывучаць новыя тэхнікі і прыёмы — гэта не зусім тое, што трэба. Успомніце, што ўжо супакойвала вас раней, і рабіце гэта. Можна пагаварыць з кімсьці па душах, папрасіць абняць, калі ёсць хтосьці побач, пачытаць пра штосьці, што выкліча прыемныя эмоцыі, патанчыць або падурэць перад люстэркам, прабегчыся, калі ў вас ёсць такая магчымасць.



**Вікторыя Пякарская: «Тыя, хто робіць запасы, спрабуюць справіцца са сваёй трывогай. І лепш з імі не спрачацца»**

Калі казаць пра найбольш эфектыўныя спосабы, то гэта, вядома, усе прыёмы, звязаныя з медытацыямі, засяроджваннем, уважлівасцю. Мы вельмі часта няўважлівыя. Што гэта значыць? Мы занадта сканцэнтраваныя на фантазіях пра будучыню або на шкадаванні пра мінулае. І вельмі няўважлівыя да сябе ў гэтым моманце. Усведамленне сябе ў сучаснасці — гэта тое, чым людзі займаюцца падчас медытацыі, калі заўважаюць свой розум, цела, бягучыя думкі і адчуванні. Гэта дапамагае скінуць напружанне і расслабіцца.

Напрыклад, вы можаце паспрабаваць паназіраць за ўласным дыханнем, але не фарсіраваць яго. Калі людзі заўважаюць, што ў іх дыханне здушанае або занадта частае, яны спрабуюць з гэтым змагацца, пачынаюць прымушаць сябе дыхаць павольней ці, наадварот, глыбей. Але такой задачы няма. Уважлівасць — гэта калі вы пачынаеце за сваім дыханнем назіраць, засяроджваецеся на ім, заўважаеце, як у дыханні задзейнічанае ваша цела, якія часткі цела ўдзельнічаюць пры ўдыху і выдыху; звяртаеце ўвагу, што яшчэ вы адчуваеце ў момант удыху або выдыху, заўважаеце, напрыклад, што паветра ледзь халаднаватае, калі дакранаецца да крылцаў носа, або такое ж цёплае, як вы самі, калі робіце выдых. Вы нібы разглядаеце сваё дыханне, і ў працэсе гэтага разглядвання яно стабілізуецца само сабой, памяншаючы і ўзбуджэнне, пра якое мы казалі ў пачатку, і саму трывогу. Гэта тэхніка займае дзве, пяць, сем хвілін — калі яе практыкаваць, то ўсё атрымаецца.

***— Гэта значыць, рэкамендацыя «быць уважлівым» — гэта сесці, супакоіцца і паназіраць за сабой?***

— Амаль. Сесці, паназіраць, а заспакаенне прыйдзе само. Каб выявіць сябе ў «тут і цяпер», можна задаць сабе такія пытанні: дзе я зараз знаходжуся, які я цяпер, як я ўспрымаю бягучы момант. Вось я, напрыклад, цяпер знаходжуся ў сваёй кватэры, у кабінеце, вясновым вечарам, і я трохі ўсхваляваная нашай размовай. І калі я пачынаю шукаць адказы на свае ж пытанні, заўважаю, што ўзбуджэнне пачынае змяншацца.

Таксама можна выкарыстоўваць прыём візуалізацыі. Напрыклад, вам у галаву прыйшла жахлівая думка. Трэба гэтую думку заўважыць, уявіць, што вы яе надрукавалі на паперы, змясціці паперку ў паветраны шар і адпусціць яго. Хай ляціць. Не абавязкова да ўсіх сваіх думак ставіцца занадта сур'ёзна. Большасць з іх — проста інфармацыйны шум, асацыяцыі з нагоды ўсяго, што мы бачым, чуем, думаем. Наогул, прыпыненне сваіх думак, якія палохаюць, — гэта выдатны інструмент, ён працуе, але добры для тых, хто гэта ўжо ўмее рабіць.

***— Мне здаецца, не ўсе змогуць скарыстацца гэтай тэхнікай. Гэта цяжка. Можа, параіце што-небудзь прасцейшае?***

— Ёсць гатовыя медытацыі. Спецыяльныя праграмы для смартфонаў. Можна пашукаць нешта падобнае, што будзе пасаваць менавіта вам. І, паўтаруся, любыя заняткі, якія дазволяць даць выхад узбуджэнню — спорт, гатаванне, прыборка.

***— Як нам пераадолець гэты перыяд з найменшымі траўмамі для псіхікі?***

— Не паддавацца паніцы і дэпрэсіі, захоўваць годнасць і самапавагу, шукаць свае асабістыя рэсурсы: што вас радуе і напаўняе сілай. Не спрабаваць ахапіць неабсяжнае і прадбачыць будучыню. Жыць цяперашнім днём і паступова пашыраць гарызонт планавання (які ў многіх звузіўся да аднаго-двух дзён) да свайго нармальнага памеру.

Трэба памятаць, што мы жывем у свеце, у якім ніхто не ведае, якім будзе развіццё сітуацыі і чым усё скончыцца. У свеце, дзе многае хутка змянілася, дзе шмат працэсаў, якімі мы не кіруем. Напэўна, самая простая рэкамендацыя — спадзявацца на лепшае, але рыхтавацца да горшага. Разумець, што свет ніколі не будзе ранейшым, усё змянілася — і змянілася крытычна. Цяпер трэба пражыць гэты перыяд так, каб паніка нас не паглынула, каб не было напружання ў сем'ях. Чым больш беражлівымі, чуллівымі, клапатлівымі, любячымі і ўважлівымі мы зможам быць адзін да аднаго, тым больш шанцаў у нас вытрымаць гэтую нявызначанасць. Не варта ставіць жыццё на паўзу ў чаканні, калі яно стане лепшым, трэба жыць цяпер.

Знаходзьце ў сабе сілы накіроўваць сваю энергію ў стваральнае рэчышча, сілы клапаціцца пра кагосьці, захоўваць цікаўнасць адзін да аднаго. Ну а калі няма сіл — то шкадаваць сябе, адпачываць і не перагружаць.

**Друкуецца ў скарачэнні, пераклад НЧ**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЗША. Прэзідэнт па е-мэйле?

Чым больш каронавірус атакуе Злучаныя Штаты, тым часцей грамадзяне задаюцца пытаннем: а ці можна ў такіх умовах забяспечыць нармальны працэс выбараў кіраўніка дзяржавы? Нават калі эпідэмія пойдзе на спад, няма ніякіх гарантый, што да 3 лістапада — дня выбараў прэзідэнта, — усё канчаткова стабілізуецца. Калі хаця б у нейкім штаце захаваецца рэжым каранціну і самаізаляцыі, выбары нельга будзе лічыць легітымнымі. Выхад з сітуацыі ўжо ёсць. Шэраг выданняў прапануюць падкарэктаваць законы і даць амерыканцам права галасаваць па электроннай пошце. «Галасаванне па пошце — сумленны варыянт для кожнага выбаршчыка ў краіне», — піша The New York Times. Лабісты галасавання па электроннай пошце таксама спасылаюцца на досвед пяці штатаў, дзе ўжо практыкуецца такая форма галасавання. Як вынік падобных публікацый — два дэпутаты Кангрэса ўжо падалі адпаведны законапраект. Але ёсць адна перашкода. Рэспубліканцы жорстка супраць рэформы, паколькі галасаваць «па мыле», хутчэй за ўсё, будуць прыхільнікі дэмпартыі. Сацыялогія паказвае, што многія рэспубліканцы — людзі кансерватыўных поглядаў і не давяраюць электроннаму галасаванню.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### УКРАІНА. Мове — асаблівыя літары

Украінскі мастак-графік Васіль Чэбанік скончыў свой адметны варыянт адлюстравання літар украінскага алфавіту. Яшчэ ў 1970-х гадах ён задумаўся над значэннем візуалізацыі мовы для нацыянальнай культуры і прыйшоў да цікавых высноваў. Аказваецца, украінская мова прыкладна з 1713 года перадаецца расійскім шрыфтам, які ўвёў Пётр І. Між тым, да канца XVIII стагоддзя на тэрыторыі Украіны і Славакіі выкарыстоўваўся свой, арыгінальны шрыфт, які ў замежнай літаратуры называлі «рутэнішэ шрыфт». Задачу аднавіць ды мадэрнізаваць гэты шрыфт і паставіў перад сабою мастак. І цяпер праца завершаная, гэты шрыфт Чэбанік назваў «Рутэнія». Больш за тое, новая графіка, як сцвярджае аўтар, па сваёй пластыцы перадае мелодыку ўкраінскай мовы. Цяпер мастак чакае рэакцыі ўрада, які павінен абавязкова зацікавіцца «Рутэніяй». «У нас амаль няма знешняй розніцы з Расіяй, таму яны там крычаць, што мы — "адзіная краіна". Візуальна мы вельмі блізкія. Аднак, калі прыняць нацыянальную азбуку, будзе адразу відаць, што Украіна — гэта іншая дзяржава», — сцвярджае Чэбанік.

**Паводле ўкраінскай прэсы**



### БЕЛЬГІЯ. Усе на вёску!

Бельгійскае выданне Politico прааналізавала наступствы рэжыму каранціну ў буйных гарадах і зрабіла выснову: каронавірус цалкам змяніць трэнд, калі людзі намагаліся перабрацца з вёскі ў горад. Як высвятляецца, жыхары гарадоў псіхалагічна вельмі кепска пераносяць рэжым самаізаляцыі. Абмежаваныя ў маленькіх кватэрах, яны пачынаюць пакутаваць на псіхічныя хваробы. Між тым, правінцыялы і тыя, каго эпідэмія заспела на вёсцы, пераносяць абмежаванні значна лягчэй. Маючы прысядзібную гаспадарку, заўжды можа заняць сябе нейкай працай. Акрамя таго, паліцэйскі кантроль над сялянамі, па зразумелых прычынах, значна меншы. Нарэшце, вёска сама па сабе ізаляваная ад вонкавага свету, і шанец вірусу трапіць сюды не такі высокі, як у метраполіях. З улікам гэтага, а таксама пагрозы новай эпідэміі, можна чакаць хуткага патоку гараджан на вёску. Дарэчы, пачатак гэтага можна назіраць ужо цяпер. Пасля таго, як Макрон абвясціў у Францыі каранцін, тры мільёны рэзідэнтаў буйных французскіх гарадоў імкліва збеглі ў правінцыю.

**Паводле бельгійскай прэсы**

### ТУРКМЕНІСТАН. Ніколі не кажы «каронавірус»

Туркменскі рэжым працягвае здзіўляць сваімі метадамі барацьбы з вірусам, якога, калі верыць афіцыёзу, у краіне няма. Такім чынам, грамадзянам Туркменістана забаранілі казаць пра каронавірус. Паводле паведамленняў незалежнай прэсы, у Ашхабадзе размовы на вуліцы пра эпідэмію могуць скончыцца затрыманнем. Спецыяльнай службе паліцыі, мяркуючы па ўсім, даручана адсочваць бытавыя размовы туркменаў. Яе агенты ў цывільным стаяць у чэргах, на прыпынках, у аўтобусах і слухаюць размовы. Пакуль лёс арыштаваных за размовы пра вірус не вядомы. Зразумела толькі тое, што за кошт падобнага хапуна ўлады плануюць прадухіліць узнікненне панікі. Хаця, мяркуючы па ўсім, гэтыя захады толькі яшчэ больш правакуюць панічныя настроі.

**Паводле туркменскай прэсы**




Фота www.criticatac.ro

**Брытанскія войскі ахоўвалі сцяну ў час ірландскай вайны за незалежнасць або англа-ірландскай вайны ў 1920 годзе**

# Спецназ, які праваліў заданне

*Алег НОВІКАЎ*

**Ірландыя адзначае цікавы юбілей: роўна сто гадоў таму Брытанія беспаспяхова паспрабавала расправіцца з рухам за незалежнасць краіны пры дапамозе фарміраванняў з былых злачынцаў.**

Звярнуцца па дапамогу да крымінальнікаў Лондан быў вымушаны не ад добрага жыцця. У 1919 годзе створаны нацыяналістамі партыі «Шын Фейн» (Sinn Féin) парламент («Шын Фейн» у тыя часы займала 73 са 105 дэпутацкіх месцаў) абвясціў Ірландскую Рэспубліку. Яе вайсковы дэпартамент — Ірландская рэспубліканская армія (IRA) — пачаў партызанскія атакі на брытанскіх сілавікоў і паліцыю. Пры гэтым дзейнічалі рэспубліканцы досыць брутальна. Адзін з лідараў IRA так інструктаваў падпарадкаваных: «Да паліцыі варта ставіцца як да асобаў, якія прызнаныя вінаватымі ў дзяржаўнай здрадзе сваёй краіне».

Трывожныя зводкі з Ірландыі прымусілі кабінет пад кіраўніцтвам Ллойд-Джорджа распрацаваць «бліскучы» план — даслаць на дапамогу паліцыі валанцёраў з былых ветэранаў Першай сусветнай вайны. Акрамя ірландскага пытання такім чынам планавалася вырашыць праблему тых экс-жаўнераў, якія пасля фронту так і не здолелі інтэгравацца ў мірнае жыццё ды, як правіла, сыходзілі ў крымінал.

Пачынаючы са студзеня 1920 года на мурах гарадоў Альбіёну сталі з'яўляцца аб'явы пра пошук мужчынаў «для выканання рызыкоўных і небяспечных задач». Бонусы за рызыкі прапаноўваліся вельмі салідныя — добры заробак, магчымасць кар'еры ў паліцыі і перспектыва атрымаць пенсію. У выніку на пунктах вярбоўкі дэфіцыту ў кандыдатах не было. З часам колькасць навабранцаў дасягнула дзесяці тысяч.

Праз такую хеўру народу ўніформы паліцэйскіх не хапіла. Таму на першы час рэкрутам выдалі гардэроб, які складаўся з зялёнай вопраткі жаўнераў і чорнай вопраткі паліцыі. Такая экстравагантная ўніформа адрознівала новае фарміраванне ад усіх існуючых на той час брытанскіх сілавых структур. Гэта хаатычнае спалучэнне розных відаў формы стала прычынай, паводле якой чальцоў фарміравання стала называць Black and Tans («чорна-пярэстыя»). Так, дарэчы, называлі і адну з мясцовых парод сабакаў.

Прыкладна з 25 сакавіка 1920 года атрады Black and Tans пачалі сваю «контртэрарыстычную аперацыю», каб хутка набыць рэпутацыю неадэкватных карнікаў. У вайне з IRA стаўка рабілася на рэпрэсіі супраць мірнага насельніцтва. Звычайнай практыкай было спальванне дамоў, прадпрыемстваў і фермаў. Некаторыя жылыя будынкі абстрэльваліся з гранатамётаў. Часта ўсё гэта суправаджалася забойствамі і фізічнымі здзекамі. Даходзіла да таго, што Black and Tans самі пачыналі ўдзельнічаць у злачынствах: напрыклад, у снежні 1920 года чацвёра «чорна-пярэстых» былі арыштаваныя за рабаванне банка. Нават міністры кабінета Ллойд-Джорджа прызнавалі, што Black and Tans «робяць рэчы, якія ні адзін англічанін не павінен рабіць».

Кульмінацыя злачынстваў Black and Tans прыпала на 21 лістапада 1920 года, калі баевікі IRA расстралялі 19 афіцэраў брытанскай арміі ў Дубліне. У адказ «чорна-пярэстыя» былі адпраўленыя на мясцовы стадыён для пошуку вінаватых, дзе на той час праходзіў матч па рэгбі. Па прыбыцці баевікі адкрылі агонь па трыбунах — забілі 12 і паранілі 65 чалавек.

Лютасць Black and Tans у выніку змяніла расклад сілаў на карысць прыхільнікаў незалежнасці. Менавіта гвалт супраць цывільных жыхароў умацаваў у грамадстве антыбрытанскія настроі. Паказальны ліст адной ірландкі да бацькоў, які яна напісала, калі ўбачыла злачынствы Black and Tans: «Як вы ведаеце, год таму я не была прыхільніцай "Шын Фейн", але цяпер мая пазіцыя змянілася». У верасні 1920 года брытанскае выданне Observer прызнавала, што акцыі Black and Tans спрыялі «вялізнаму паслабленню маральнай пазіцыі Брытаніі ва ўсім свеце».

Нягледзячы на тое, што Лондан намагаўся неяк рэабілітавацца, а некалькі «чорна-пярэстых» былі нават адпраўленыя пад трыбунал, які вынес ім смяротны вердыкт, сітуацыю выратаваць ужо не атрымалася. Па-сутнасці, барацьба супраць Black and Tans стала агульнанацыянальнай справай, што знайшло адлюстраванне ў шматлікіх літаратурных творах. Больш за тое, нейкі час пасля атрымання незалежнасці Ірландыі шматлікія тубыльцы называлі падзеі 1919–1921 гадоў не вайной за незалежнасць, а вайной з чорна-пярэстымі. На той час самі Black and Tans былі ўжо расфарміраваныя.

Праз сто гадоў легенда не выглядае такой стэрыльнай. Гісторыкі знайшлі шмат нестыковак. Так, паводле падлікаў, прыкладна 20 працэнтаў чальцоў Black and Tans складалі этнічныя ірландцы. Няслушным аказаўся міф пра тое, што большасць баевікоў мела крымінальнае мінулае, што яны былі набраныя проста з турмаў. Справа ў тым, што, паводле тагачасных законаў Брытаніі, крымінальнае мінулае пазбаўляла чалавека права працаваць у паліцыі. Увогуле, галоўную адказнасць за злачынствы Black and Tans ахвотна перакладаюць на ўрад Брытаніі, які дадумаўся паслаць на вайну з цывільнымі ўчорашніх жаўнераў, якія, натуральна, дзейнічалі па правілах вайны.

Аднак гэта, хутчэй, частка вузкіх навуковых дэбатаў. Для простых ірландцаў вайна супраць Black and Tans застаецца нацыянальным подзвігам. Інакш бы цяпер выданне Echolive не параўнала баевікоў з... каронавірусам. «Black and Tans былі, бадай, самай смяротнай сілай праціўніка, якую мы бачылі ў гісторыі гэтай краіны і якая ўяўляла пагрозу для нашага ладу жыцця. Адзінай вакцынай было паляванне на іх, пакуль не скончылася вайна. Цяпер Ірландыя аказваецца ў вайне з іншым ворагам, які, праўда, хаваецца. Але мы можам і павінны выйграць вайну, як і сто гадоў таму», — піша Echolive.

# Царква і каранцін

Алег НОВІКАЎ

**Надыходзячы Вялікдзень ужо падзяліў хрысціянскую супольнасць на дзве фракцыі. Першыя, якіх большасць, падчас святаў гатовыя заставацца дома, каб не даць вірусу ані шанцу. Другія, насуперак пагрозе, верныя традыцыям.**



Фота www.bobr.by

Вірус не шкадуе нікога, у тым ліку святароў і вернікаў. Выпадак каронавіруса пацверджаны ў манахаў на Святой гары Афон. У Бялградзе ад яго памер біскуп Сербскай праваслаўнай царквы. У адной з пратэстанцкіх цэркваў у штаце Ілінойс заразілася большасць вернікаў. На мінулыя выходныя ў Ватыкане зарэгістравалі шосты выпадак хваробы.

Нягледзячы на сумны баланс і відавочную рызыку, частка вернікаў адмаўляецца пайсці ў самаізаляцыю. «Царкоўныя службы ад Масквы да Рыа-дэ-Жанейра працягваюцца непасрэдна ў храмах, святары грэбуюць небяспекай распаўсюджвання каронавіруса», — адзначае брытанскі The Guardian.

Напэўна, пальму першынства тут утрымлівае Грузінская праваслаўная царква. Яе Сінод напрыканцы сакавіка пастанавіў, што пандэмія не з'яўляецца дастатковай падставай для змены шматвяковых традыцый, і тым больш для спынення масавых набажэнстваў.

Пастанова Сінода нават супярэчыць заклiку Сусветнага патрыярха Варфаламея пра часовае спыненне масавых набажэнстваў. На думку грузінаў, іх царква «не абавязаная прытрымлівацца ніякіх рашэнняў, акрамя ўласных». Што ўжо казаць пра прадстаўніка мясцовага ўраду, які напярэдадні намагаўся распавесці Сіноду пра небяспеку вялікай колькасці людзей у закрытым памяшканні. Яго аргументы проста праігнаравалі. Дарэчы, раней ГПЦ настойвала на тым, што вера абароніць паству нашмат лепш, чым рэкамендацыі медыкаў.

Беручы пад увагу тое, што ў Грузіі для падтрымання каранціну задзейнічаныя войскі і нават абвешчана камендантская гадзіна, можна прагназаваць, што Вялікдзень, які грузіны святкуюць 19 красавіка, будзе напружаным. Хаця аўтарытэт царквы ў Грузіі такі моцны, што пакуль не зразумела, як сілавікі змогуць спыніць масавыя мерапрыемствы. Тое ж тычыцца Грэцыі, Сербіі, Украіны і Румыніі — дзяржаў з моцнай праваслаўнай традыцыяй.

Да канца не высветленай застаецца пазіцыя Рускай Праваслаўнай Царквы. 29 сакавіка Патрыярх Кірыл прызнаў, што існуе «вельмі вялікая пагроза эпідэміі», ды заклікаў вернікаў устрымацца ад наведвання храмаў. Ледзь не адразу прэс-служба заявіла, што «храмы РПЦ працягнуць працаваць падчас пандэміі і праводзіць набажэнствы, а таксама ў некаторых выпадках пускаць вернікаў». Гэта не ўратавала кіраўнікоў РПЦ ад крытыкі кансерватараў. «Самаўхіленне патрыярха ў найбольш крытычныя для яго паствы дні, якія не маюць прэцэдэнтаў у царкоўнай гісторыі, азначае добраахвотную здачу знешнім сілам», — пішуць праціўнікі. А ў Піцеры нейкі святар нават адмовіўся ад сану на знак пратэсту супраць апошніх заяваў Патрыярха.

Цікава, што ў асяроддзі пратэстантаў не так шмат галасоў супраць новых санітарных нормаў. Увогуле, на першым этапе некаторыя нават віталі вірус як пакаранне «кітайскага бязбожнага камуністычнага ўрада, які пераследуе хрысціян». Гэтую думку агучваў у студзені пастар Рык Вайлс. Цяпер, як правіла, у большасці пратэстанцкія цэнтры падтрымліваюць каранцін, што можна растлумачыць сітуацыяй у бедным Трэцім свеце. Тут шмат пратэстантаў, якім ігнараванне правілаў медычнай бяспекі пагражае больш за ўсіх.

Што да Касцёлу, то заклікі супраць самаізаляцыі царквы таксама гучаць, аднак не так моцна. Напрыклад, за Бугам рух за наведванне храмаў у часы каранціну ўзначаліў Славамір Сяржынскі, які раней быў зоркай мясцовай дыска-сцэны. «Мужчыны, бацькі, бабулі і дзядулі, хадзем у царкву супраць заразы! Паляк абавязаны абараняць каталіцкую веру. Толькі пад Крыжам, толькі пад гэтым знакам Польшча — гэта Польшча», — піша музыка. З іншага боку, нават і ён прызнае, што каранцін — не так кепска. Як мінімум, палякі ў большай ступені прытрымліваюцца нормаў Вялікага посту, адмаўляюцца праз рэжым каранціну ад забаваў, больш думаюць пра глабальныя тэмы.

Найбольш паслядоўна ў Касцёле выступае супраць каранціну каталіцкі кардынал Рэйман Берк, які заявіў, што доступ да імшы не можа быць забаронены, нават калі свет сутыкаецца з пандэміяй. «Разглядаючы тое, што трэба для жыцця, мы не павінны забываць, што найважнейшымі з'яўляюцца нашы адносіны з Богам», — лічыць ён.

Сапраўдным маніфестам каталікоў-кансерватараў стаў артыкул «Скажы "не" дамінаванню смерці» публіцыста Р. Рэно, які ледзь не прамым тэкстам піша, што каранцін прыдумалі прыслужнікі Сатаны. «Страх смерці і страх перад прычыненнем смерці распальваецца матэрыялістычным поглядам на выжыванне любым коштам (…) Пакуль мы дазваляем страху правіць, гэта прывядзе да таго, што амаль усе вернікі пацерпяць няўдачу», — піша ён.

**Найбольш паслядоўна ў Касцёле супраць каранціну выступае кардынал Рэйман Берк, які заявіў, што доступ да імшы не можа быць забаронены, нават калі свет сутыкаецца з пандэміяй. «Разглядаючы, што трэба для жыцця, найважнейшымі з'яўляюцца нашы адносіны з Богам»**

Вельмі эмацыйныя тэзісы давялося аператыўна пракаментаваць самаму мэру Нью-Ёрка, дзе ўжо зафіксавана больш за 67 тысяч выпадкаў заражэння, а колькасць памерлых ад наступстваў хваробы перасягнула 1,3 тысячы чалавек. Біл дэ Блазія паабяцаў не толькі штрафаваць рэлігійныя арганізацыі за парушэнне правілаў каранціну, але і ўвогуле забараняць іх.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Уладзімір Зяленскі



Уноч на 31 сакавіка прэзідэнт Украіны дамогся прыняцця закона наконт адкрыцця зямельнага рынку, што азначае радыкальны паварот у курсе ўкраінскага кіраўніцтва.

Падчас выбарчай кампаніі Зяленскі абяцаў як мінімум рэферэндум па гэтым пытанні. Тэма кансультацый з народам наогул была фішкай яго кампаніі. Аднак у выніку прэзідэнт забыўся пра свае абяцанні, паколькі цяпер краіна, паводле яго словаў, мае патрэбу ў крэдытах МВФ. Адсутнасць фінансавай падтрымкі, маўляў, пагражае дэфолтам.

Яго апаненты звяртаюць увагу на тое, што кошт зямлі ва ўмовах крызісу відавочна будзе заніжаны, а сам крэдыт МВФ не выратуе ўкраінскую гаспадарку. Але самае цікавае тое, што Зяленскі змог правесці свае законапраекты, дзякуючы галасам фракцыі Пятра Парашэнкі, на супрацьпастаўленні якому доўгі час і будаваўся яго імідж. Адны пішуць, што Парашэнка падтрымаў былога апанента за тое, каб пракуратура прыпыніла цягаць яго на допыты па карупцыйных справах. Іншыя дапускаюць нават стварэнне кааліцыі паміж былымі канкурэнтамі.

Наступствы галасавання па зямлі вельмі непрадказальныя не толькі таму, што як мінімум 75 працэнтаў украінцаў выступала супраць продажу зямлі. Менавіта ўсенародная шчырая і абсалютна бясплатная нянавісць да Парашэнкі спарадзіла феномен Зяленскага і «Слугі народа». І ад Зяленскага патрабавалася ў генеральнай лініі толькі адно — не быць як Парашэнка. Цяпер відавочна, што надзеі на абнаўленне тых, хто галасаваў за Зяленскага, не апраўдаліся.

### Дональд Трамп



У прэзідэнта ЗША патрабуюць не атаясамліваць вірус з Кітаем. Справа ў тым, што Трамп і яго атачэнне ўпарта называюць вірус або «кітайскім» або «ўханьскім» (Ухань — горад у КНР, дзе пачалася эпідэмія).

Грамадскія актывісты адразу пабачылі тут прыкметы ксенафобіі супраць амерыканскіх грамадзян кітайскага і ўвогуле азіяцкага паходжання. «Вінавацячы азіятаў, Трамп спрабуе адцягнуць увагу людзей ад яго няўмелага кіраўніцтва краінай падчас пандэміі. Гэта з'яўляецца часткай яго палітычнай стратэгіі», — сцвярджае адзін з крытыкаў.

Сапраўды, у некаторых штатах краіны ўжо былі выпадкі гвалту супраць азіяцкага бізнесу. У сувязі з гэтым амерыканскай адміністрацыі прапануецца называць вірус проста «каронай».

Між тым, у атачэнні Трампа не бачаць у азначэннях «кітайскі вірус» або «ўханьскі вірус» нічога кепскага. У тым ліку таму, што назвы шматлікіх хваробаў маюць нейкую адсылку да канкрэтнай мясцовасці. Напрыклад, грып «іспанка» або «вірус Белага Ніла». Між тым, з улікам таго, што ў азіяцкай камуны ў Злучаных Штатах ёсць сваё лобі ў парламенце, наўрад ці спрэчкі наконт палітычна карэктнай назвы каронавіруса на гэтым скончацца.

### Мікалай Рыбакоў



Партыя «Яблоко», старшынёй якой з'яўляецца Рыбакоў, стала першай антыпуцінскай партыяй у Расіі, якая прапанавала альтэрнатыўны план барацьбы з эпідэміяй каронавіруса. Ён сфармуляваны ў 25 пунктах, якія прыняло партбюро «Яблока».

У адрозненне ад іншых апазіцыянераў, якія робяць стаўку на неэфектыўнасць працы пуцінскай вертыкалі ва ўмовах эпідэміі, «Яблоко» хоча выглядаць партыяй канструктыўнай альтэрнатывы. Большасць пунктаў плану маюць сацыяльна-эканамічны характар і вымагаюць ад улады дадатковага фінансавання некаторых сектараў. Сярод самых першых неадкладных мераў — падтрымка сістэмы аховы здароўя. У тым ліку ўрад заклікаюць на парадак узняць заробкі медперсаналу і дактарам. Дадатковыя выдаткі, як лічаць у Рыбакова, дазволяць масава тэставаць на каронавірус усіх жадаючых і падазраваных на інфекцыю, а таксама адсочваць кантакты ўсіх інфікаваных, змяшчаць іх на працяглы хатні каранцін.

Ёсць у праграме і блок пра неадкладныя палітычныя меры. Напрыклад, канчаткова адмовіцца ад галасавання па папраўках у Канстытуцыю, якія «Яблоко» лічыць незаконнымі. Увогуле, план партыі Рыбакова мае папулісцкі прысмак, аднак нават крытыкі прызнаюць, што пры правільным падыходзе да справы партыя можа атрымаць палітычныя дывідэнды па завяршэнні віруснага крызісу.

# БССР: і плюс, і мінус

**Ці з'яўлялася БССР сапраўднай дзяржавай? Чаго ў гэтым дзяржаўным утварэнні было больш: плюсоў ці мінусаў? На гэту тэму разважае чалавек, які шмат што бачыў на ўласныя вочы, доктар гістарычных навук Леанід Лыч.**

## Без БССР

Мы жывём па-за храналагічнымі рамкамі БССР. «Вінаватая» ў гэтым 6-я сесія Вярхоўнага Савета БССР, якая 19 верасня 1991 года прыняла рашэнне аб перайменаванні БССР у Рэспубліку Беларусь, на што ў народа рэакцыі не было. Ён усё яшчэ жыў свежымі падзеямі жнівеньскага путчу ў Маскве, у якога было нямала прыхільнікаў і сярод нашых палітыкаў і партыйных ідэолагаў самых высокіх катэгорый. Дый з прычыны цяжкага эканамічнага становішча ў бальшыні людзей не мелася жадання разважаць пра нечаканую трансфармацыю ў назве рэспублікі.

Але ж, акрамя шараговых народных масаў, у нас у той час было і нямала палітычнай, інтэлектуальнай эліты, якая стала такой менавіта ў гады БССР. Каму-каму, а гэтай катэгорыі грамадства варта было б хоць штосьці добрае сказаць на адрас БССР. Найперш тым, хто і на пачатку 1990-х гадоў не зведваў аніякіх сацыяльных праблем. Прамаўчалі.

Як і трэба было чакаць, пасля рашэння той сесіі Вярхоўнага Савета ў народа пачаў прыкметна зніжацца імідж БССР. 1 студзеня 1992 года, напрыклад, урадавыя газеты ані слова не напісалі пра яе, пра што яны так ахвотна і ўзнёсла апавядалі на працягу больш за 70 гадоў.

Прамаўчала ўрадавая прэса і 1 студзеня 1994 года, калі БССР стукнула 75 гадоў. Праўда, пазней у друку зрэдку з'яўляліся публікацыі па першай беларускай савецкай дзяржаве. Натуральна, самых процілеглых поглядаў.

Зусім не падобнае па маштабах асвятлення месца БССР назіралі мы ў 2019-м. Несумненна, тут найперш «вінаваты» сам юбілей: 100-годдзе з дня абвяшчэння Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусь (такая яе першапачатковая назва). Аднак, не толькі.

Мы не забыліся, які масавы характар набыло святкаванне стагоддзя з дня абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, пра якую савецкая гістарыяграфія альбо ўпарта маўчала, альбо напоўніцу палівала брудам. Часцей за ўсё мела месца апошняе, што зрабіла моцны асадак у памяці многіх людзей, асабліва блізкіх да бальшавіцкіх поглядаў. Каму-каму, а ім было не даспадобы бачыць, як урачыста праходзіў 100-гадовы юбілей БНР. Роля ж дзяржавы ў яго арганізацыі была чыста сімвалічная: не забараняла, але і пальцам не паварушыла, каб дапамагчы нацыянальным актывістам належным чынам правесці свята.




**Для тых, хто знаходзіўся пры ўладзе ў адноўленай у студзені 1919 года беларускай дзяржаве, беларуская мова з'яўлялася сапраўднай Маці БССР. Яе шанавалі як найвялікшую каштоўнасць, і рабілі крокі, каб яна стала рэальна дзяржаўнай**




Але дзяржава спрычынілася да актыўнага ўдзелу ў святкаванні 100-гадовага юбілею БССР.

Сказанае ў поўнай меры пацвярджаюць шматлікія публікацыі вядомых гісторыкаў на старонках газет, правядзенне навукова-практычных канферэнцый. Найбольш масавай, самай багатай па змесце, дастаткова прафесійнай па тэарэтычным узроўні дакладаў была праведзеная 6–7 снежня ў Мінску навуковая канферэнцыя «Гістарычныя лёсы беларускай савецкай дзяржаўнасці (да 100-годдзя стварэння БССР)». Ладзілі яе Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Аддзяленне гуманітарных навук і мастацтваў, Інстытут гісторыі НАН Беларусі, Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, Беларускі Дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка.

## Пазітыў

На гэтай канферэнцыі выступаў і я. І пабудаваў пазітыўна сваё выступленне на секцыі: «Павышэнне ролі нацыянальнага фактару ў першыя гады існавання БССР (1919–1924 гг.)». Пазітыўна таму, што гэта сапраўды мела месца. За тыя гады ўлады маладой БССР, у межах няпоўнага абсягу толькі Міншчыны, для нацыянальнага інтарэсу яе жыхароў зрабілі ў дзясяткі разоў болей, чым сённяшняя сістэма кіравання краінай амаль за 25 гадоў свайго функцыянавання, прычым на непараўнальна большай тэрыторыі, з дастаткова багатым эканамічным, кадравым патэнцыялам, высокім адукацыйным узроўнем людзей.

У першым выпадку ішоў мэтанакіраваны працэс узвядзення беларускай мовы ва ўсе без выключэнняў сферы дзейнасці чалавека, у другім, наадварот, — недапушчэнне яе (мовы) праз хітра накінутае грамадству ліпавае афіцыйнае беларуска-рускае двухмоўе. У першым выпадку год ад года колькасна раслі беларускамоўныя навучальныя ўстановы, у другім — адбывалася і адбываецца іх скарачэнне. У першым выпадку расла колькасць афіцыйных газет і часопісаў на беларускай мове, у другім — яе захоўваюць практычна толькі ў загалоўках і некаторых рубрыках дзяржаўных перыядычных выданняў.

Асаблівае жаданне маю нагадаць лёсавызначальны для нашай у мінулым і сёння этнічна знявечанай Бацькаўшчыны факт: прыняцце 12 снежня 1920 года Другім Усебеларускім з'ездам Саветаў рабочых, сялянскіх, батрацкіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў пастановы аб пераводзе ўсіх дзяржаўных установаў на беларускую мову. Звярніце ўвагу: тады яшчэ не мінула і паўгода пасля другога абвяшчэння (31 ліпеня 1920 года) Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусь. Вакол адны выкліканыя войнамі разбурэнні, страшэнная галеча. Сярод дэпутатаў таго гістарычнага з'езду і дзесяці чалавек не было з дыпломамі аб заканчэнні вышэйшай навучальнай установы. А якое глыбіннае разуменне ролі беларускай мовы ў пабудове ўласнай дзяржавы на яе прыродным культурна-моўным грунце, у захаванні этнічнай самабытнасці тытульнай нацыі!

Так разумна паставіліся дэпутаты з'езду да роднай мовы таму, што добра ведалі, як на гэта варожа глядзеў Часовы ўрад Расіі, а пазней бальшавікі, выражаючы пытанне: мець ці не мець Беларусі ўласную дзяржаву? Усе яны катэгарычна заяўлялі: «Не!». І беспадстаўна сцвярджалі, што ў беларусаў няма сваёй мовы, што іх родная мова — руская.

Погляды бальшавікоў карэнным чынам змяніліся, калі наш славуты філолаг, акадэмік Пецярбургскай акадэміі навук Яўхім Карскі і яго калегі-аднадумцы пераканаўча даказалі, што беларуская мова ёсць, што яна самабытная і адрозная ад рускай. І бальшавікі пагадзіліся з гэтым. Таму для тых, хто знаходзіўся пры ўладзе ў адноўленай у студзені 1919 года беларускай дзяржаве беларуская мова па ўсёй справядлівасці з'яўлялася сапраўднай Маці БССР. Яе шанавалі як найвялікшую каштоўнасць, і таму рабілі тэрміновыя крокі, каб яна не на словах, а на справе стала рэальна дзяржаўнай.

І ў бліжэйшыя гады такое адбылося, за што нельга не любіць БССР, не стаць на калені перад яе тагачаснымі палітыкамі і ідэолагамі, актыўнымі ўдзельнікамі нацыянальна-культурнага адраджэння.

Я лічу, што ўлады БССР плённа займаліся ў 1919–1924 гадах нацыястваральнай дзейнасцю, што пазітыўна адбівалася на нацыянальным настроі, нацыянальным руху і на тых нашых суродзічах, якія жылі ў межах іншых палітыка-дзяржаўных фарміраванняў — Расійскай Федэрацыі і Другой Рэчы Паспалітай. А вось сёння прэзідэнцкая вертыкаль сваёй сістэмнай руйна-



вальнай палітыкай дэбеларусізацыі толькі спрыяе дээтнізацыі нашых суплеменнікаў як блізкага, так і далёкага замежжа, іх кантакты з метраполіяй і наадварот не напоўнены нацыянальна-адраджэнскім зместам, не спрыяюць захаванню этнакультурнай самабытнасці беларусаў.

### Негатыў

Без узважанай, канструктыўнай нацыянальнай дзейнасці ўладаў БССР у 1919–1924 гадах было б немагчыма ў ліпені 1924 года трывала стаць на шлях дзяржаўнай палітыкі беларусізацыі, якая адыграла вялізную ролю ў пабудове жыцця нашага народа на яго ўласнай этнакультурнай аснове, нягледзячы і на сваю кароткатэрміновасць: на мяжы 1929–1930 гадоў неабходна было па волі Масквы мяняць гэты наш выратавальны, нацыястваральны курс. Спачатку на светлыя галовы нацыянальна арыентаваных колаў рэспублікі навалілася барацьба бальшавіцкіх ідэалагічных і сілавых структураў з гэтак званым «беларускім нацыяналізмам», а затым і масавыя фізічныя рэпрэсіі. Без належнага паказу ўсяго гэтага, — а такое, на жаль, мае ў нас месца — гісторыя дасавецкай БССР не можа прэтэндаваць на аб'ектыўнасць.

І гэта адна з самых трагічных старонак з жыцця беларускага народа, за што ён павінен «дзякаваць» не рэспубліканскім дзяржаўным органам, а агульнасаюзным, як ініцыятарам барацьбы з надуманымі беларускімі буржуазнымі «нацдэмамі», ворагамі савецкага народа. Мела б БССР такі дзяржаўна-палітычны статус, як унітарная БНР, не ўваходзіла б ні ў якія палітычныя саюзы, што абмяжоўваюць нацыянальны суверэнітэт, напэўна ж, яе народ не сутыкнуўся б з такой бядой. Гэтую небяспечную з'яву неабходна нам сёння вельмі грунтоўна даводзіць да розуму, бо сучасныя непрадуманыя інтэграцыйныя палітычныя працэсы займаюць цэнтральнае месца ў дзейнасці афіцыйных уладаў Рэспублікі Беларусь.

БССР, як недасканаламу, непаўнапраўнаму палітычнаму суб'екту СССР, мы абавязаны паўторным узвядзеннем у нашым краі з 1929 года прыгоннага права ў фармаце калектыўнай сельскай гаспадаркі (калгасы), што зрабіла нас не толькі беднымі матэрыяльна, але і істотна падарвала, аслабіла этнакультурны патэнцыял нашага народа, аслабіла сілы яго супраціву русіфікацыі. Галадамору, як ва Украіне, у нас не было, але ў 1930-я гады, у другім дзесяцігоддзі Савецкай Беларусі, яе народ жыў надгаладзь, што зведаў на сабе і народжаны ў 1929 годзе аўтар гэтых радкоў. Прыгадваецца, што нават рэдка калі даводзілася напоўніцу паесці хлеба. За абедзенным сталом даводзілася строга прытрымлівацца правіла: адзін раз кусайла — пяць разоў сярбайла, бо неставала самага неабходнага — хлеба.

Да сёння застаюцца незабытымі ў памяці напалову разабраныя ўзімку 1938/39 года стрэхі крытых саломаю хлявоў. «Распранулі» ж іх дзеля таго, каб гэтай састарэлай, неспажыўнай з-за працяглага часу знаходжання пад сонцам, снегам і дажджом саломай карміць галодную жывёлу. Нашым бацькам гэтага не давялося рабіць, бо я, 9-гадовы, і мая 10-гадовая сястра Ліда штодзённа прывозілі па дзве каляскі нарванага на полі, у балоце зелля і сушылі яго на харч для каровы.




Так бедна, як савецкія беларусы, не жылі іх суседзі — літоўцы і латышы. І так не жылі таму, што не ўваходзілі ў склад першай у свеце сацыялістычнай дзяржавы СССР. Не зведалі такой нішчымніцы і нашы суродзічы з Другой Рэчы Паспалітай, не гаворачы ўжо пра саміх палякаў.

Ці вось яшчэ адна прыкрая, антысацыянальная з'ява савецкіх часоў, невядомая аніводнай краіне Еўропы. Выгадаваўшы і закалоўшы свінню, гаспадар не меў права асмаліць яе, каб есці са скуркай, што спрадвеку вадзілася ў беларусаў, прычым нават і за царскім прыгонным правам. Скуру з абеленай свінні трэба было ў абавязковым парадку здаць дзяржаве.

Нялёгка дасталася беларусам і падчас акупацыі. Нямецкія танкі на шосты дзень увайшлі ў Мінск, не сустрэўшы на сваім неперcase можным шляху ніякай абарончай «Лініі Сталіна». Не сустрэлі таму, што яе ніхто не ўзводзіў. Пра гэта ні радка не напісана ў выдадзенай за савецкім часам навуковай, публіцыстычнай літаратуры. Датычыць гэта і такой капітальнай працы, як «Гісторыя Мінска» (1967). На яе 438-й старонцы згадваюцца двухдзённыя баі на паўночным захадзе ад Мінска, але з падыходам 27 чэрвеня «свежых танковых частей врага пацярпеўшая вялікія страты (падкрэслена мною. — Л.Л) дывізія (100-я ордэна Леніна пад камандаваннем генерал-маёра І. Н. Русіянава. — Л.Л.) вымушана была адступіць за раку Волму».

Марнымі стануцца пошукі «Лініі Сталіна» на старонках самай салiднай працы сучасных беларускіх гісторыкаў «Беларусь в годы Великой Отечественной войны. 1941–1945» (2005 год). У ёй маюцца звесткі пра рознага роду абарончыя аб'екты, якія скрозь ствараліся пры вядзенні баёў на любых участках нямецка-савецкага фронту, але пра «Лінію Сталіна» — ні слова, бо, паўтаруся, яе не існавала. Болей за тое, у згаданай кнізе савецкім абарончым аб'ектам справядліва даецца далёка не высокая адзнака. Датычыць гэта і пабудаваных да вайны, і спехам

**Калі б у савецкі перыяд гісторыі беларусы знаходзіліся ў складзе Расіі ў статусе губерняў, мы б падзялілі лёс сваіх суплеменнікаў Смаленшчыны, Браншчыны, Пскоўшчыны і на час распаду СССР не падалі б нават і голасу аб стварэнні ўласнай дзяржавы**



створаных напярэдадні самога ўварвання нямецкіх войскаў у беларускую сталіцу. У якасці доказу прывяду такую цытату з кнігі: *«К сожалению, минский УР* (укреплённый район. — Л.Л.) *не смог в сложившейся обстановке выполнить те функции и задачи, для которых он предназначался».*

Круці ні круці, а пад Мінскам не адбывалася таго, што ў верасні 1939 года пад Варшавай: немцы акупавалі яе толькі на 28-ы дзень вайны, панёсшы немалыя страты ў жывой сіле і тэхніцы. На тэрыторыі Беларусі войскі вермахта зведалі нешта падобнае толькі 3–26 ліпеня пад Магілёвам.

«Лінія Сталіна» — гэта вынаходніцтва сучасных палітыкаў і ідэолагаў Рэспублікі Беларусь. Калі ім так ужо рупіць на тэрыторыі Беларусі ўзвесці нешта накшталт Лініі, дык гэта трэба стварыць у якім-небудзь з усходніх раёнаў краіны і пад назвай «Лінія Лукашэнкі».

Такое абарончае збудаванне архіважнае для нас і выкарыстоўваць дзеля гэтага трэба не звычайныя жалезабетонныя канструкцыі, блокі і ім падобнае, а — не здзіўляйцеся, шаноўныя! — самабытны беларускі этнакультурны матэрыял, адметную ад усіх лексіку нашай зямлі. Чаму? Створаная прэзідэнцкай вертыкаллю ў Рэспубліцы Беларусь культурна-моўная прастора сёння ўжо амаль тоесная такой прасторы Расійскай Федэрацыі, таму вельмі негатыўна ўплывае на здольнасць беларусаў супраціўляцца русіфікацыі. Будучы з цягам часу да тла зрусіфікаванымі (а тут ужо засталося вельмі мала чаго дарабіць), яны страцяць усялякую зацікаўленасць мець, жыць у такой безаблічнай у нацыянальным плане квазісуверэннай дзяржаве, як Рэспубліка Беларусь. Наплыў у яе з Усходу ўсяго рускага, у тым ліку і войска, будзе ўспрымацца зрусіфікаванымі беларусамі, як Божы падарунак.

Таму, калі палітычнае кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь усё ж не жадае такога цалкам заслужанага для сябе падарунка, неабходна ўздоўж яе ўсходняй мяжы тэрмінова ўзводзіць не жалезабетонную, а культурна-моўную «Лінію Лукашэнкі», выкінуўшы на сметнік сваё хітра навязанае, згубнае для беларусаў афіцыйнае двухмоўе. Да гэтай жа бязглуздзіцы не дадумаліся архітэктары дзяржаўнай палітыкі беларусізацыі міжваеннага перыяду — самай бліскучай нацыянальнай старонкі ў гісторыі БССР.

Шмат адмоўнага было характэрна этнакультурным працэсам БССР у 1944–1991 гады. Ніводная тытульная нацыя не толькі саюзных, але і аўтаномных рэспублік не панесла ад дзяржаўнай русіфікатарскай палітыкі такіх вялізных этнічных стратаў, як беларуская. Глыбокі аналіз, усебаковае раскрыццё прычын такой трагедыі маглі б дапамагчы сучасным палітыкам выпрацаваць і праводзіць ва ўсіх сферах духоўнага жыцця курс, цалкам адпаведны беларускаму нацыянальнаму інтарэсу. Шмат часу ён упарта не ўлічваецца існай сістэмай кіравання і, як заканамерны вынік, сёння карэннае насельніцтва краіны з'яўляецца больш зрусіфікаваным, чым у пачатку 1990-х гадоў.

З адарванымі ад нацыянальна-культурных, моўных традыцый беларусамі кіраўніцтву краіны ніяк нельга весці размовы нават і пра самую элементарную форму палітычнай інтэграцыі з Расіяй. У этнакультурным плане беларусы не даспелі, не гатовыя да правільнага разумення такога лёсавызначальнага для іх будучыні пытання. Са зрусіфікаванымі беларусамі нельга нават і размовы весці пра стварэнне Саюзнай дзяржавы.

Не будучы за савецкім часам так татальна залежнай ад агульнасаюзнага цэнтру, Беларусь мела б куды больш адпаведную яе прыродна-геаграфічным умовам структуру эканамічнай вытворчасці, не перажыла б буйнамаштабнага асушэння балотаў, у што магутны ўнёсак зрабіў адкамандзіраваны Масквой да нас у 1966 годзе «Галоўпалессеводбуд». Сёння многія створаныя самой прыродай беларускія балоты стану 1950-х гадоў больш прыцягвалі б да сабе замежных турыстаў, чым штучныя аграгарадкі.

Нікому іншаму, як агульнасаюзнаму цэнтру ў Маскве, Беларусь абавязана вядомай усяму свету па сваіх цяжкіх наступствах тэхнагеннай катастрофай на Чарнобыльскай атамнай станцыі. Усё гэта лішні раз сведчыць, як важна кожнаму народу, у тым ліку і беларускаму, быць сапраўдным гаспадаром на сваёй зямлі; як рэдка каму ўдаецца застацца самабытным, выжыць у любым фармаце саюзнай і тым больш поліэтнічнай дзяржаве — гэтай сапраўднай кузні па этнічнай пераплаўцы ўсіх сваіх нацый і народнасцяў, акрамя тытульнай.

### І ўсё ж...

Выказаны шэраг сур'ёзных негатыўных ацэнак на адрас БССР, аднак, не мяняе майго станоўчага погляду на гэтае палітычнае утварэнне. Не мяняе таму, што, калі б у савецкі перыяд гісторыі беларусы знаходзіліся ў складзе Расійскай Федэрацыі ў статусе паасобных губерняў, мы б падзялілі лёс сваіх суплеменнікаў Смаленшчыны, Браншчыны, Пскоўшчыны і на час распаду СССР не падалі б нават і голасу аб стварэнні ўласнай дзяржавы, паколькі не ўсведамлялі б сябе самабытным, адрозным ад рускіх этнасам.

А калі ж сёння беларусы ў непараўнальна большай ступені нагадваюць рускіх, чым на час скону СССР, дык за гэта трэба «дзякаваць» дарэшты адарваным ад базавых для нашай зямлі культурна-моўных традыцый архітэктарам, ідэолагам нацыянальнай палітыкі Рэспублікі Беларусь і ў першую чаргу яе кіраўніку. На працягу ўсяго часу існавання Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі нацыянальнае жыццё нашага народа не было такім страшэнна пакалечаным, абяскроўленым, бесперспектыўным, як сёння.

# Старадаўнія помнікі руйнуюць

Алесь КРЫЖЭВІЧ

**Крычаў уваходзіць у топ-20 самых старажытных гарадоў Беларусі. Ён доўгі час быў адным з усходніх фарпостаў спачатку Вялікага Княства Літоўскага, а пасля Рэчы Паспалітай ад маскавіцкай навалы. Горад з вельмі багатай гісторыяй цяпер перажывае часы, якія можна назваць драматычнымі.**




Знесеная частка вала пры будаўніцтве царкоўнай лаўкі

Абыякавае стаўленне да гарадской гісторыі мяне як гісторыка не проста здзіўляе, а абурае і падштурхоўвае да рашучых дзеянняў.

Адносна нядаўна ў старой частцы горада, каля Свята-Ўваскрасенскай царквы, пачаліся будаўнічыя работы. Прылеглая да царквы тэрыторыя не так даўно была часткай невялікай паркавай зоны з дрэвамі і да культавай пабудовы не належала. У апошнія ж часы тэрыторыя парка была далучана да тэрыторыі царквы і адгароджана жалезным плотам. З гэтага часу былі спілаваныя і выкарчаваныя дрэвы, а на цяперашняй прыцаркоўнай тэрыторыі пачаліся будаўнічыя работы.

Пытанні да будаўніцтва ўзнікаюць таму, што месца, на якім размешчана царква, з'яўляецца гістарычным цэнтрам горада з багатым культурным слоем. Таму перад тым, як пачаць работы, варта было б звярнуцца да археолагаў, каб сумесна даследаваць тэрыторыю. Нічога падобнага айцом Сергіем, які з'яўляецца протаіерэем у царкве, зроблена не было.

Яшчэ больш сумная сітуацыя адбываецца на Замкавай гары, якая з'яўляецца старажытным дзядзінцам і знаходзіцца зусім блізка ад цэнтра старой часткі горада. На гарадзішчы лакалізуецца Свята-Мікалаеўская царква, у якой пяць дзясяткаў гадоў служыў айцец Міхаіл Макаўцоў. Ён быў па-сапраўднаму народным бацюшкам, мог распавесці пра старадаўні помнік цікавыя гісторыі і нават легенды. За шмат гадоў служэння ў царкве ён не ўчыніў ніякай шкоды ўнікальнаму аб'екту археалогіі, дый сам быў зацікаўлены ў захаванні старадаўняга гарадзішча.

Што не скажаш пра новага айца Андрэя Ігнатушку, які стаў настаяцелем храма з 2011 года. Малады бацюшка, які з'яўляецца ўраджэнцам Крычава, не надта лічыцца з унікальным аб'ектам і паводзіць сябе з Замкавай горой нібыта яе гаспадар. Практычна адразу пасля свайго прызначэння, у пачатку лета 2012 года, айцец Андрэй заняўся ўладкаваннем уваходнай часткі на Замкавую гару і ў царкву, зруйнаваўшы добрых некалькі метраў вала. Цяпер застаецца толькі канстатаваць, што частка вала гарадзішча была знішчаная, а ўезд на Замкавую гару пашыраны пры дапамозе экскаватараў і бульдозераў.

А нядаўна гэтая гісторыя займела працяг. Пры ўваходзе на гару з правага боку знаходзіцца хрысцільня ці баптыстэрый, якая выглядае невялікай драўлянай пабудовай. Да хрысцільні ў ранейшыя часы былі таксама прыбудаваны невялічкі гаспадарчы склад. Бацюшка Андрэй вырашыў знесці гаспадарчую прыбудову, а замест яе размясціць цагляную царкоўную лаўку. Аднак месца для лаўкі аказалася замала, і вырашана было зруйнаваць пару метраў вала. Будаўнічыя працы пачаліся адносна нядаўна, але ж цяпер яны ўжо на стадыі стварэння падмурка будучай царкоўнай лаўкі. Такім чынам, за сем гадоў служэння айца Андрэя ў Свята-Мікалаеўскай царкве ўнікальнаму археалагічнаму помніку была нанесена дастатковая шкода.

Зразумела, што ні ў першым, ні ў другім выпадку будаўнічыя работы не ўзгадняліся з прафесійнымі гісторыкамі ці археалагамі. Не прыцягваліся да абмеркавання і мясцовыя краязнаўцы, якія б маглі быць для бацюшкі Андрэя крыніцай ведаў і добрымі памочнікамі і дарадцамі. Закона бацюшка таксама не парушыў, бо Замкавая гара не ўзятая пад ахову дзяржавы і не ўваходзіць у Спіс гісторыка-культурнай спадчыны Крычаўскага раёна. Пры гэтым драўляная Свята-Мікалаеўская царква якраз у гэты спіс уваходзіць.

Адчуваецца нейкі дысананс і парадокс у гэтай сітуацыі, калі драўляная царква мае статус гістарычнай каштоўнасці, а вось гарадзішча «Замкавая гара» (нашмат больш старажытнае па часе з'яўлення), на якой знаходзіцца культавы аб'ект, важным і ўнікальным не лічыцца.

Ні прадстаўнікі мясцовай улады, ні служыцелі Свята-Мікалаеўскай царквы не праяўляюць ніякай ініцыятывы, каб захаваць унікальны помнік гісторыі не толькі для горада, але і для ўсёй Беларусі. Добра, што ён проста існуе хоць у якім-небудзь стане, а не зруйнаваны, як старая вінакурня, дзе ў савецкія часы знаходзіўся мясцовы піўзавод. Гэты помнік прамысловай гісторыі Крычаў страціў назаўжды. У каго з'явілася «геніяльная» ідэя зруйнаваць рэшткі вінакурні, сказаць цяжка. Аднак можна з дакладнасцю адказаць, што глуздоў у такога ініцыятара як кот наплакаў.

Замест таго, каб захаваць вінакурню, зрабіўшы гарадской адметнасцю, паспрабаваць хаця б часткова рэканструяваць, уключыўшы ў турыстычны маршрут па горадзе, яе руйнуюць. Цяпер на месцы былой вінакурні знаходзяцца некалькі пагоркаў з будаўнічым смеццем, кавалкі сценаў са старой чырвонай цэглы, а таксама частка не да канца зруйнаваных падмуркаў. Відовішча вельмі сумнае і выклікае пачуцці гневу ды шкадавання.

Чаму мясцовая ўлада ніяк не рэагуе на відавочны факт злачынства? Гэтая сумная падзея прайшла зусім не асветленай у мясцовай газеце. Відавочна, што ніякага пакарання злачынцам, якія руйнуюць гістарычную спадчыну горада, не прадугледжана, бо вінакурня таксама не была аб'ектам гісторыка-культурнай спадчыны. І ўсё гэта робіцца ў Год малой радзімы! Вось такім чынам любяць сваю малую радзіму ў Крычаве… Зруйнаваць — у нас гэта на раз-два, а вось захоўваць, на вялікі жаль, розуму не хапае.

З сумам толькі магу канстатаваць, што часта ініцыятывы ў сферы гістарычнай памяці ў горадзе вылучаюцца адыёзнасцю і недарэчнымі прапановамі. Прыкладам можа стаць ініцыятыва мясцовага гістарычнага музея па стварэнні пакояў Кацярыны II. Ідэя, мякка кажучы, дзіўная. Сапраўды, Кацярына аднойчы была ў горадзе, і нават адна са старых дарог, насыпы ад якой бачны да сёння, называецца Кацярынінскім шляхам. Але ці варта адзін візіт музеефікаваць?

Сёння ўжо не выклікае здзіўлення, што ў палацы Пацёмкіна-Галынскіх, дзе знаходзіцца музей і мясцовы аддзел ЗАГС, праводзяцца мерапрыемствы ў стылі Кацярыны II і Пацёмкіна, што не толькі не актуалізуе беларускую гісторыю, а прапагандуе гістарычныя персанажы іншай краіны.

# БагатаДата

**Было прынятае рашэнне абвесціць Дзень Чарнобыльскай трагедыі, а таксама нарадзіўся наш зямляк, які выправіў чалавека на Месяц. Якія яшчэ падзеі мінулага мы можам узгадаць?**

### 4 красавіка

**Дзень інтэрнэту.**

**1945.** У вёсцы Петрашунцы Валожынскага раёна на Міншчыне нарадзіўся доктар фізіка-матэматычных навук Віктар Карзюк. Працаваў прарэктарам БДУ і рэктарам Інстытута падрыхтоўкі навуковых кадраў Акадэміі навук.

### 5 красавіка

**1950.** У Мінску нарадзіўся трэнер па фрыстайле Мікалай Казека. Яго вучні заваявалі шэсць алімпійскіх медалёў, з іх чатыры — залатыя. У маладосці Мікалай Казека займаўся скачкамі на батуце і быў чэмпіёнам СССР.

**1990.** Вярхоўны Савет тады яшчэ БССР абвясціў 26 красавіка Днём Чарнобыльскай трагедыі. Грамадскасць у той час толькі дамагалася праўды пра гэтую катастрофу, якая здарылася ў 1986 годзе, і дзеянняў па ліквідацыі яе наступстваў.

### 6 красавіка

**Міжнародны дзень спорту дзеля развіцця і міру.**

**1910.** У Санкт-Пецярбургу нарадзіўся беларускі грамадскі дзеяч, матэматык, фізік, знаны адмысловец у касманаўтыцы Барыс Кіт. У 1930-я гады працаваў выкладчыкам і дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі, а таксама гімназіі ў Навагрудку. Падчас нямецкай акупацыі арганізоўваў настаўніцкія семінары. Арыштоўваўся гестапа, пазбег расстрэлу і пасля вайны эміграваў. Жыў і працаваў у ЗША ды Германіі. Барыс Кіт быў сярод тых навукоўцаў, дзякуючы якім чалавек паляцеў на Месяц. Яго імя замуравана ў капсуле часу ў сцяне Капітолія ў Вашынгтоне. Памёр узімку 2018 года на 108-м годзе жыцця.

### 7 красавіка

**Сусветны дзень здароўя.**

**1905.** У Дуброўне на Віцебшчыне нарадзіўся аператар, сцэнарыст і рэжысёр кіно Натан Аксельрод. Ён зняў першыя ў ізраільскім кінематографе мастацкія фільмы.

### 8 красавіка

У Беларусі — **Дзень супрацоўнікаў ваенных камісарыятаў. Міжнародны дзень ромаў.**

**1580.** На Піншчыне нарадзіўся багаслоў Лявонцій (Логвін) Карповіч. Узначальваў у ВКЛ антыўніяцкі рух. За гэта сядзеў у вязніцы. У 1620 годзе на смерць Лявонція Карповіча быў напісаны найбуйнейшы ў ВКЛ паэтычны твор на старабеларускай мове — «Лямант на смерць Лявонція Карповіча». Пасля скону ўшаноўваўся як святы.

### 9 красавіка

**1911.** У Генічэску (Херсонская вобласць Украіны) нарадзіўся Ісай Казінец, да Другой сусветнай вайны — інжынер у Беластоку, а затым — кіраўнік падполля ў Мінску. Схоплены фашыстамі і павешаны ў траўні 1942 года. У гонар Казінца названыя вуліца і плошча ў Мінску.

### 10 красавіка

**Міжнародны дзень руху супраціву.**

**1900.** У вёсцы Малая Багацькаўка Мсціслаўскага раёна на Магілёўшчыне нарадзіўся геолаг, географ, грамадскі дзеяч Гаўрыла Гарэцкі. Адзін з заснавальнікаў Акадэміі навук Беларусі. Малодшы брат пісьменніка Максіма Гарэцкага. Бацька вучонага Радзіма Гарэцкага. Быў рэпрэсаваны: асуджаны да расстрэлу, але застаўся жывым. Браў удзел у будоўлях амаль усіх буйных ГЭС у Расіі. Вярнуўся ў Мінск у 1969 годзе. Апрача геалогіі, меў навуковыя працы па фальклоры, дэмаграфіі, эканоміцы сельскай і лясной гаспадаркі. Вярнуў з нябыту імя і творчасць Максіма Гарэцкага.

**1975.** У Мінску нарадзіўся гімнаст Іван Іванкоў. Неаднаразовы пераможца і прызёр чэмпіянатаў свету. Жыве ў ЗША.

**2010.** У авіякатастрофе пад Смаленскам, кіруючыся на жалобныя мерапрыемствы ў Катынь, загінуў прэзідэнт Польшчы Лех Качынскі, а таксама многія іншыя асобы з тагачасна кіраўніцтва гэтай краіны. Бацькі Леха Качынскага і яго брата-блізнюка Яраслава больш за дзясятак гадоў у міжваенны перыяд жылі ў Баранавічах.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №568

Падпісана да друку 03.04.2020. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.